*Сёння вечарам у Беларусь прыбудзе прэзідэнт Кубы Мігель Марыя Дыяс-Канель Бермудэс.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 83 (4438)**

22 кастрычніка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЦИТАТА

Александр КЛАСКОВСКИЙ:

## Какое может быть партийное движение, если новую партию у нас последний раз зарегистрировали в 2000 году?

На встрече в Академии управления официальный лидер Беларуси утверждал, что *«существующие партии и движения у нас в прошлом, а некоторые в настоящем себя дискредитировали. Вот почему нет партийного движения, а не потому, что Лукашенко их сдерживает и не хочет этих партий»*.

Помилуйте, но какое может быть партийное движение, если новую партию у нас последний раз зарегистрировали в 2000 году, то есть еще в прошлом тысячелетии? Те же христианские демократы (достаточно серьезная по белорусским меркам структура) бились как рыба об лед, но раз за разом получали отказ в регистрации под пустячными формальными предлогами.

К тому же политическая оппозиция перемолота долгими репрессиями, удушена дискриминацией. Эта дискриминация, конечно, совсем не кровавая. Например, на этих парламентских выборах оппозиционеров просто продинамили с местами в избиркомах. На этапе регистрации кандидатов в основном выбиты из обоймы самые яркие персонажи, способные блеснуть во время агитации.

Никаких дубинок, арестов, никакой крови. Просто методичное отсекание. Но в итоге народ не верит, что оппозиция в принципе что-то может, а молодежь не идет в ее ряды, поскольку такой выбор выглядит иррациональным. Люди хотят зарабатывать деньги, вить уютные гнездышки и делать карьеру, а не выглядеть маргиналами да искать приключения на свою голову.

(Naviny.by.)

СТОП-КАДР

## Хто каго правакуе?



На палігоне пад Брэстам праходзіць актыўная фаза вучэння амаль 900 беларускіх і расійскіх дэсантнікаў. Ваеннаслужачыя адпрацоўваюць пытанні вядзення разведвальна-баявых дзеянняў у тыле ўмоўнага праціўніка, дэсантавання асабовага складу, вядзення агню з усіх агнявых сродкаў, што знаходзяцца на ўзбраенні падраздзяленняў, якія бяруць удзел у вучэнні, а таксама практычнай стральбы штурмавой авіяцыі. Плануецца задзейнічаць амаль 250 адзінак баявой і спецыяльнай тэхнікі, больш як 10 адзінак ваенна-транспартнай авіяцыі ад РФ і РБ і авіяцыі непасрэднай падтрымкі ад УС РБ, сярод якіх самалёты ІЛ-76, ЯК-130 і верталёты Мі-8МТВ-5.

І пасля гэтага дзіўна будуць гучаць з боку высокіх беларускіх чыноўнікаў прэтэнзіі да палякаў, літоўцаў ці латышоў наконт таго, што яны разам з натаўцамі праводзяць вучэнні побач з нашымі межамі. Яны што, сёння будуць глядзець на ўзброеных да зубоў беларускіх і расійскіх дэсантнікаў і пляскаць у далоні?

НЕ СПАЗНІЦЕСЯ!

## Вам трэба прадоўжыць падпіску на лістапад?

*Зрабіце гэта да 27 кастрычніка*




Ведаем, многім з Вас, шаноўныя чытачы, трэба прадоўжыць падпіску на наступны месяц. Не спазніцеся! Зрабіце гэта да 27 кастрычніка – і ў лістападзе “Народная Воля” будзе ў вашых паштовых скрынках.

Ды і пра снежань падумайце. Поўным ходам ідзе падпіска ўжо і на першую палову 2020 года.

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

ВЫБАРЫ-2019

Таццяна КАНЕЎСКАЯ, кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў:

## «Седзячы каля тэлевізараў, мы нічога не даможамся...»

Першы агітацыйны пікет зладзіла 20 кастрычніка кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Гомельскай-Савецкай акрузе №34, актывістка руху “Маці 328” Таццяна Канеўская. Яна, маці чатырох сыноў, ідзе ў парламент, каб бараніць незалежнасць Беларусі, правесці праз заканадаўчыя ініцыятывы судовую рэформу, змяніць антынаркатычнае заканадаўства, а таксама скасаваць празмерныя льготы дэпутатам ды ўладным чыноўнікам.

На пляцоўцы каля гандлёвага цэнтра “Рэчыцкі” група падтрымкі Канеўскай выставіла пераносны стэнд з яе біяграфіяй, узняла бел-чырвона-белы сцяг. Разгарнулі плакаты з рознымі тэкстамі. Некалькі жанчын трымалі партрэты сваіх маладых сыноў, асуджаных на 8–12 гадоў зняволення за незаконнае абарачэнне наркатычных рэчываў. На стэндзе – лічбы: па наркатычным артыкуле 328 Крымінальнага кодэкса былі пакараны ў 2013 годзе – 2492, 2015-м – 3929, 2018-м – 2452 чалавекі.

Людзі падыходзілі, цікавіліся, што за статыстыка такая і з якой нагоды пікет. Некаторыя са здзіўленнем даведваліся, што менш як праз месяц іх запросяць на выбарчыя ўчасткі галасаваць.

Тым часам Таццяна Канеўская звярталася да землякоў з такімі словамі:

*“Толькі народ у стане змяніць усё тое, што адбываецца ў краіне. Іншаму падаецца, што ён трымае ўсё ў сваіх руках. Не. Гэта мы павінны трымаць усё ў сваіх руках. Паглядзіце: нам удалося, нягледзячы на перашкоды, змяніць закон і змякчыць адказнасць за незаконнае абарачэнне наркотыкаў – артыкул 328. Два гады таму пра гэта і слухаць не хацелі, а не тое што пераглядаць у парламенце. Удалося гэта зрабіць пераважна высілкамі жанчын. Спадзяёмся, мужчыны падцягнуцца – мы іх баршчом накормім. Седзячы каля экранаў тэлевізараў, мы нічога не даможамся. Калі мы дапаможам апазіцыі, улада зменіцца”.*

Каб стаць кандыдатам, Таццяна Канеўская з паплечнікамі збірала подпісы выбаршчыкаў. Яе вылучыла таксама Аб’яднаная грамадзянская партыя. Сябры партыі зараз дапамагаюць Таццяне арганізоўваць пікеты.

Апроч перагляду крымінальнага заканадаўства, Канеўская выступае за правядзенне ў краіне судовай рэформы. Суддзяў павінен выбіраць народ на конкурснай аснове.

*“Выбараў у нас няма. Тое, што мяне зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты, – нечаканая навіна. Можна сказаць, гульня ў дэмакратыю. Я перакананая, што ў парламенце не павінна быць чыноўнікаў. Бо яны будуць працаваць і паводзіць сябе як чыноўнікі, з аглядкай на сваё начальства. Яны даўно развучыліся чуць людзей. У іх ёсць указанні зверху, і яны іх прытрымліваюцца”*, – пераканана Канеўская.

Яна выступае таксама за скасаванне льгот дэпутатам Палаты прадстаўнікоў і непамерна высокіх грашовых выплат.

*“Рабочых прымушаюць зарабляць сваю зарплату. І дэпутаты мусяць яе зарабляць, а не штампаваць законы, якія пасля патрабуюць значных змен”*, – кажа Канеўская.

Так званыя выбары ў Палату прадстаўнікоў зараз не надта турбуюць гамяльчан. Ды не толькі іх. Людзі не бачаць актыўнай ролі дэпутатаў у жыцці краіны. Адпаведнае і стаўленне да іх. Нездарма ж на сустрэчы ў Акадэміі кіравання 18 кастрычніка і Аляксандр Лукашэнка выказаўся наконт большай актыўнасці дэпутатаў, бо “кепска, калі нейкая праблема – прэзідэнт бяжыць наперадзе, яшчэ нешта – зноў прэзідэнт”. Трэба, каб дэпутаты “кідаліся наперад і баранілі кожнага выбаршчыка”, каб у дэпутатаў “віравала”.

*“Малаверагодна, што Таццяна Канеўская патрапіць ў парламент. А шкада. Я яе добра ведаю. Калі б яна і такія, як яна, сталі дэпутатамі, у парламенце сапраўды віравала б жыццё. І выбаршчыкаў яны баранілі б, як сваіх дзяцей”*, – кажа Валянціна Пашкоўская.

Канкурэнтамі Канеўскай у Гомельскай-Савецкай акрузе №34 выступаюць начальнік аддзела маркетынгу і рэкламы ААТ “Кірмаш” Віктар Барысаў, начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі аблвыканкама Ірына Даўгала і юрыст ААТ “Экалогіка”, сябра Ліберальна-дэмакратычнай партыі Вольга Ігнаценка.

Назіральнікі зазначаюць, што Барысаў, хутчэй за ўсё, выступае як спарынг-партнёр кандыдаткі ад улады, каб быў намінальны канкурэнт, калі ўсе іншыя кандыдаты нечакана здымуцца з перадвыбарнай гонкі. Такая тактычная адметнасць сёлетніх выбараў. Што да прадстаўніцы ЛДП, то яна апошнім часам праз партыйнае вылучэнне ўдзельнічае ў кожнай выбарчай кампаніі.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## У Літву прыбылі амерыканскія танкі

*Іх размесцяць непадалёк ад мяжы з Беларуссю*



Па чыгунцы ў Пабрадэ (недалёк ад мяжы з Беларуссю) дастаўлены восем танкаў Abrams і 21 баявая машына пяхоты (БМП) Bradley, паведаміў прадстаўнік літоўскай арміі па сувязях з грамадскасцю маёр Гінтаўтас Цюніс, піша Delfi.

Яшчэ некалькі дзясяткаў танкаў будуць дастаўлены ў наступныя тыдні. Як сказаў міністр абароны Літвы Раймундас Каробліс, прыбыццё падраздзялення ЗША дэманструе, што дыслакацыя сіл такога маштабу ўжо не табу.

«Гэта, перш за ўсё, вестка для Літвы і нашых суседніх краін НАТА, што мы з’яўляемся краінамі, якія ў выпадку крызісу будуць абараняцца як частка НАТА, што саюзнікі з намі», – заявіў міністр у панядзелак.

«Гэта таксама мэсэдж і для Расіі пра тое, што ЗША ўцягнуты. Гэта дадатковы фактар стрымлівання», – сказаў кіраўнік Мінабароны Літвы Раймундас Каробліс.

Каля 500 прадстаўнікоў сухапутных сіл ЗША прабудуць у Літве да вясны.

(Nn.by)

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## Подпольный паспорт

Российское правительство приняло решение считать граждан Беларуси и Украины равноправными носителями русского языка, получающими гражданство России без сдачи специального экзамена на его знание. Так сказать, по упрощенной схеме.

Начнем с того, что белорусское законодательство двойного гражданства не признает. Если гражданин Республики Беларусь намерен получить гражданство другой страны, он должен вначале отказаться от нынешнего. Не отказался – нарушил закон и должен нести ответственность.

Тогда в чем же дело?

Читатели, вероятно, помнят: совсем недавно в так называемых ДНР и ЛНР вдруг начали выдавать красные паспорта с двуглавым орлом на обложке всем желающим. Это такой своеобразный тест на лояльность. Хочешь в Россию? Получи паспорт.

Да, в России красный паспорт с птицей на обложке дает значительные преимущества. При трудоустройстве, например. При обслуживании в государственных бюджетных учреждениях – медицинских или образовательных. Но, согласно договору о создании так называемого Союзного государства, как раз в этой части граждане Беларуси получают точно такие же права, как граждане России, – и наоборот. И квартиру в Москве, если жителю, например, Пуховичей состояние позволит, он может купить с такой же легкостью, как москвич – в Пуховичах. И российский паспорт для этого получать вовсе не обязательно.

Смысл в другом. Живешь ты, например, в этих самых Пуховичах, а в Беларуси меняется власть. Скажем, выражает новая власть желание вступить в Европейский Союз. И выясняется, что в тех же Пуховичах живет группа товарищей с российскими паспортами, которая, если использовать традиционную для нашего президента формулировку, «уздымае вэрхал»: «Аааааа! Наши права нарушаются! Не хотим мы в Европу!» И Россия констатирует: блин, действительно, права наших сограждан нарушаются! И давай эти самые права защищать!..

Мы уже видели, как она это делала в Крыму и продолжает делать в Донбассе. Ну, может быть, «защитит» несколько быстрее и с меньшим числом жертв. Но результат в итоге будет весьма похожим. И схема та же – даже еще более упрощенная. Носитель языка – гражданин – потребность в защите. Только в украинских случаях на пожарищах находили визитки Дмытро Яроша, а у нас – визитки Змитра Дашкевича будут находить. Или Сергея Бульбы. Но тоже – очень страшных. Просто до панического ужаса.

Найдутся, вероятно, среди наших соотечественников такие, кто просто плохо знает белорусское законодательство и согласится получить второй паспорт по простоте душевной. Но, читая отчеты о высокой образованности белорусов, поневоле подумаешь, что как раз этих наивных людей будет очень мало. Большинство из тех, кто решит воспользоваться столь выгодным предложением, – люди явно грамотные, и российские паспорта они будут получать, отдавая себе отчет в том, что нарушают закон. Повторюсь: не российский закон, ибо там норма о двойном гражданстве прописана как раз так, что подобную возможность открывает. Нарушать будут белорусский закон. И, как и положено всякому сознательному нарушителю закона, будут вести двойную жизнь: явный, открытый и вполне внешне лояльный к белорусскому государству гражданин будет сочетаться в нем с человеком, как писал Достоевский, «подпольным» – тайным, культивирующим свою ненависть ко всему белорусскому, мечтающим и ускоряющим приближение возможности воспользоваться вторым паспортом и выйти из «подполья».

И это решение российского правительства – сугубо, на первый взгляд, мирное, языкового вопроса касающееся, – внезапно оказывается связанным с другим заявлением. Вице-премьер и министр финансов Российской Федерации Антон Силуанов опять заявил о том, что кредиты для Беларуси будут напрямую связаны с решением об углублении интеграции двух государств.

Насколько связаны?

Сильно. Даже очень.

К сожалению, белорусская экономика действительно слишком интегрирована с российской. Будь речь просто о равноправном сотрудничестве в нормальных рыночных условиях – вопросов никаких не было бы. Но здесь каждое колебание в политической линии одного или другого государства немедленно сказывается и на сотрудничестве экономическом. Разумеется, белорусская сторона более подвержена воздействию. И вызвать кризис в Беларуси Россия может достаточно легко – стоит лишь надавить посильнее.

Как вы думаете, кто в этом случае будет кричать громче всех и просто немедленно начнет собирать подписи под петицией «Об интеграции с Россией по самое горло»? И сколько бы подписей ни было, разумеется, найдется – в точности как в XVIII веке – новый Григорий Конисский, который бросится в ноги государю всея Руси и потребует защищать права православных верую… простите, русскоязычного населения.

И голос его будет услышан. За 250 лет методика вполне апробирована.

Так что «подпольный паспорт», путь к получению которого еще раз упростили наши российские партнеры, – вовсе не безобидная бумажка «на всякий случай». Она как раз этот случай ускоряет и приближает.

СЛЫШАЛИ?

## Доктора наук и профессора получат 360 рублей доплаты к пенсии

Еще с 2012 года в стране звучали предложения внести в закон «О пенсионном обеспечении» норму, которая предусматривала бы сохранение на пенсии доплат за ученую степень доктора наук и ученое звание профессора. И вот 18 октября Александр Лукашенко подписал указ №386 «О стимулировании научной деятельности и совершенствовании оплаты труда», в котором речь идет о доплатах к пенсиям таких ученых с 1 января 2020 года.

Правда, в комментарии к Указу №386 пресс-службы главы государства сумма и механизм начисления этих доплат не озвучивались, сообщалось лишь, что *«с 1 января 2020 года устанавливаются ежемесячные доплаты к пенсиям лицам, имеющим ученую степень доктора наук и ученое звание профессора (при достижении пенсионного возраста и прекращении трудовой деятельности)»*.

«Народная Воля» решила уточнить: какие будут доплаты? Может, сохранятся доплаты за ученую степень доктора наук и ученое звание профессора? Например, прибавку к пенсии за звание получают академики и члены-корреспонденты Академии наук Беларуси.

Оказывается, доплата к пенсии неработающим пенсионерам-ученым, которые имеют ученую степень доктора наук и ученое звание профессора, установлена в двукратном размере базовой ставки. Размер базовой ставки, которая начнет действовать с 1 января, – 180 рублей, следовательно, размер доплаты составит 360 рублей. Причем, как сообщили “Народной Воле” в пресс-службе президента, такие доплаты *“с 1 января 2020 г. предусмотрены* ***всем*** *таким категориям граждан* ***независимо от занятия*** *ими* ***преподавательской деятельностью****»*.

Сегодня, к слову, работающие доктора наук, которые имеют звание профессора, ежемесячно получают к зарплате доплату, кратную 10 тарифным ставкам первого разряда, – 410 рублей. С 1 января, подчеркивают в пресс-службе, *«в связи с введением* ***с 1 января 2020 г.*** *базовой ставки за такие степени и звания будут установлены соответствующие* ***надбавки в кратных размерах от базовой ставки****»*.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

## Ну очень дорогая Анна

*Неужели Нетребко будет выступать в Минске при полупустом зале?*

Это невероятно, но на концерт непревзойденной оперной певицы Анны Нетребко и ее мужа тенора Юсифа Эйвазова, который должен состояться 25 октября в Большом театре, еще не продана треть партера, а также почти весь первый ряд бельэтажа. Почему? Да цены атомные! Оставшиеся места в партере стоят от 885 до 1005 рублей. Хотя есть последний ряд балкона, который пока тоже в основном свободен, он по 305 тысяч. И эти три сотни, пожалуй, еще можно выложить из кошелька. С другой стороны, стоит ли забираться так высоко, чтобы почти ничего не увидеть? Уж лучше в таком случае смотреть и слушать Анну по телевизору. Кстати, недавно по российскому каналу «Культура» транслировали в записи оперу «Аиду» из Зальцбурга. Такое наслаждение ее тончайшее, прозрачное пиано, ее артистизм!..

Конечно, услышать ее вживую – счастье для меломанов, но они, как правило, не имеют даже официальной средней месячной зарплаты, которая объявлена в Минске в размере 1512,8 рубля. И даже если имеют, то не каждый может половину или две трети отдать за концерт в опере.

Концерт Анны Нетребко – мероприятие коммерческое, хоть и проходит на сцене государственного театра. Он организован агентством Berin Iglesias Art, которое часто привозит в Минск исполнителей с мировой славой. Понятно, что не вся выручка идет в карман артистов, что не только их гонорар формирует такие цены. Но, как видим, Минск к высокой ценовой политике не готов. Хотя в Москве билеты на концерт певицы стоят и того дороже – от тысячи долларов и выше. Не говоря уже о Нью-Йорке, Лондоне, Вене, Париже…

**Виктория ДРОЗД.**

ВІЗІТ

## 24–25 кастрычніка Аляксандр Лукашэнка наведае Казахстан

Гэта будзе яго афіцыйны візіт. У Нур-Султане А.Лукашэнка правядзе перамовы з Касым-Жамартам Такаевым.

Не выключана, што ён таксама возьме ўдзел у казахстанска-беларускім бізнес-форуме і адкрыцці новага комплексу беларускай дыпмісіі.

ТРЫВОЖНЫ РОЗДУМ

# Беларуская школа ў… магільнай яме

“Што не зроблена рускім штыком – даробіць руская школа”, – гаварыў генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў, чыя жорсткасць падчас задушэння паўстання 1863 года збянтэжыла нават частку палітычнай эліты Расіі, стаўленне якой да паўстанцаў рэдка бывала міласэрным. Штыкам тады работы хапіла, і доўга яшчэ ўся расійская палітыка на беларускіх землях трымалася на тых самых штыках.

Тое цынічнае выслоўе начальніка *Северо-Западного края* прыгадваецца мне ўсё часцей. І не над старонкамі гістарычных кніг пра Кастуся Каліноўскага, які прыняў смерць у “мураўёўскім гальштуку” (так у той час сталі называць пятлю шыбеніцы), а пасля літаратурных выступленняў у школах. Расказваеш пра нешта школьнікам, чытаеш ім вершы, і раптам па іхніх вачах (дзіцячыя вочы – люстэрка яшчэ тое!) бачыш, што яны з цяжкасцю разумеюць беларускую мову, успрымаюць яе як замежную. Некалькі разоў я нават правёў адмысловыя апытанні, і аказалася, што сучасныя вучні ў лепшым выпадку разумеюць толькі палову пачутых беларускіх слоў. Палову! Зразумела, што і адэкватна ўспрымаць атрыманую на малаўцямнай мове інфармацыю яны не ў стане.

З гэтага вынікае, што школа наша перастала быць нацыянальнай па сутнасці. Прыкрываючыся фігавай шыльдай двухмоўя, яна становіцца гадавальнікам *русского мира* і гатовая “дарабляць недаробленае” мураўёўскімі штыкамі і шыбеніцамі 150 гадоў таму. А кажучы папросту – вытрасаць з беларусаў іх душу – мову, ператвараючы іх у *носителей русского языка*, статус якіх нядаўна замацаваны спецыяльнай пастановай Крамля.

Такой небяспечнай і ганебнай сітуацыі з мовай у школах Беларусі яшчэ не было. Нават акупацыйныя рэжымы (польскі і нямецкі) ставіліся да беларускай школы з большай увагай, чым сённяшняя ўлада. Прыклады? Калі ласка. У 1916–1918 гадах на тэрыторыі, акупаванай немцамі, было адкрыта 168 казённых школ з беларускай мовай навучання. Адным росчыркам пяра генерал-фельдмаршала Гіндэнбурга.

Сёння ж адкрыць беларускамоўную школу ў Гродне, Брэсце ці Магілёве практычна немагчыма. Ды што там школу – з класамі праблема! Гадоў пяць таму нас, пісьменнікаў, запрасілі выступіць у адной з магілёўскіх школ, каб падтрымаць адкрыты там беларускі клас. І клас той у поўным складзе з кветкамі ў руках сустрэў нас на школьным ганку. Тры дзяўчынкі-першакласніцы! Тры – на ўвесь амаль чатырохсоттысячны Магілёў! Вочы тых першакласніц бачацца мне і дагэтуль…

Як і многіх чытачоў “Народнай Волі”, мяне да глыбіні душы ўзрушыла сітуацыя ў Верцялішках пад Гродна, дзе сёлета пачаў дзейнічаць беларускамоўны клас. У ім толькі дзве вучаніцы – Арына і Багдана Адамовіч. Прычым па статусе Верцялішкаўская школа – беларускамоўная, але вось ужо 10 гадоў усё навучанне вядзецца там па-руску. Адкрыўшы той няшчасны клас, адміністрацыя школы схапілася за галаву – няма ў наяўнасці патрэбных падручнікаў…

Што называецца – дажыліся. Калісьці ў Верцялішках быў паказушны калгас, куды вазілі замежныя дэлегацыі, а цяпер будзе паказушны клас. Паказушны і праблемны з гледзішча педагогікі, бо дзве вучаніцы на ўсю школу – гэта ўжо нават не гета, а клетка з дзвюма белымі варонамі, у якіх астатнія вучні з уласцівай падлеткам жорсткасцю (згадайце фільм “Пудзіла”) будуць тыкаць пальцамі.

Я схіляю галаву перад маці **Алай Адамовіч** з Верцялішак, бо на ўласным вопыце ведаю, колькі амбразур сваім целам трэба закрыць, каб адкрыць беларускі клас. Калі ішла ў школу мая дачка, такі клас з вялікімі намаганнямі ўдалося стварыць у мінскай СШ №218. На першавераснёўскай лінейцы дзетак павіншавалі, а назаўтра клас быў закрыты – з-за некамплектнасці, як нам, бацькам, патлумачыў дырэктар. Тое ж самае ў больш катэгарычнай форме пачулі мы і ва ўпраўленні адукацыі Мінгарвыканкама. Даведзеныя да адчаю, мы не ведалі, што рабіць. Калі топішся, дык і за касу ўхопішся – я патэлефанаваў Івану Карэнду, які працаваў тады ў Адміністрацыі прэзідэнта. Абмаляваў сітуацыю і сказаў, што мы, дзевяцёра бацькоў, вяртаемся ў школу і на знак пратэсту прыкоўваем сябе кайданкамі да поручняў…

Праз паўгадзіны на школьным ганку нас з распасцёртымі абдымкамі ўжо чакаў дырэктар, якому патэлефанавалі, як ён прызнаўся, з самага верху. І клас аднавілі. І ён праіснаваў належныя 11 гадоў. За што я і мая дачка да гэтай пары ўдзячныя Івану Арсеньевічу Карэнду, які на ўсіх чыноўніцкіх пасадах змог застацца беларусам.

Да каго звяртацца і да якіх поручняў прыкоўвацца бацькам сёння? Паводле якога права беларуская школа ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь самым нахабным чынам русіфікуецца? Чаму з нахрапістай упартасцю бульдозера ўлада спіхвае нацыянальную школу ў магільную яму?

Міністр адукацыі **Ігар Карпенка**, ведайце: за рычагамі таго бульдозера сёння седзіцё вы. А значыць, вы, прабачце, – далакоп беларускай школы. Чым ваша ведамства толькі не займалася апошнім часам – і ліквідацыяй гімназій, і дыскрэдытацыяй Кастуся Каліноўскага, і пакараннем падначаленых, якія патураюць рукапрыкладству на ўроках, і бясконцым рэдагаваннем падручнікаў. Ледзь не кожны год скарачаюцца і перапрасаюцца школьныя праграмы па беларускай літаратуры, выкідаюцца адтуль пісьменнікі-“нацыяналісты” і жывасілам упіхваюцца туды графаманы з прыўладнага Саюза пісьменнікаў. У вас, сённяшняга міністра, усё пад кантролем, не хочаце вы бачыць толькі аднаго – нацыянальнай школы на дне магільнай ямы.

Старшыня Гродзенскага аблвыканкама **Уладзімір Краўцоў**, вы чуеце – па вуліцы Ажэшкі пад вашымі вокнамі праходзіць пахавальная працэсія? Хаваюць беларускую школу – з вашага ведама і пры вашым спрыянні. Вам таксама хочацца стаць далакопам? Апомніцеся, спыніце працэсію, забараніце іграць жалобны марш, згадайце пра сваё сумленне, якое завецца Арына і Багдана.

Ах, вы і так пайшлі на парушэнне нарматываў, адкрыўшы ўсяго для двух чалавек цэлы беларускамоўны клас? І абласны бюджэт панясе неапраўданыя выдаткі? Дык звярніцеся праз “Гродзенскую праўду” і абласное тэлебачанне да ўсіх бацькоў вобласці з заклікам аддаваць дзетак у беларускія школы! Скажыце ім, што з боку дзяржаўных структур карэнным чынам мяняецца палітыка ў адносінах да роднай мовы, яна вось-вось напоўніцу загучыць не толькі ва ўсіх навучальных установах, але і ў чыноўніцкіх офісах. Праўда, для гэтага вам, спадар Краўцоў, і вашым падначаленым ва ўсёй вобласці трэба перапрэсці ўсе існуючыя школы – на прадмет самаўпраўна змененага там моўнага рэжыму. Адразу і выдаткі зменшацца, і далакопам вас ніхто ніколі не назаве.

У нядаўнім інтэрв’ю незалежным выданням міністр замежных спраў **Уладзімір Макей** прызнаўся, што шануе родную для ўсёй яго сям’і беларускую мову, але сына аддаў у рускую школу. Так, маўляў, атрымалася.

У вышыванцы замежным паслам верш Купалы прачытаць – за мілую душу. Беларускую мову ў перапісным лісце роднай назваць – і гэта не праблема. А вось за сваю школу для ўласнага сына пазмагацца – тут Макей спасаваў. Не міністэрская гэта справа – подпісы збіраць.

І чаго, спадары чыноўнікі, вартыя ўсе вашы вышыванкі і мантры пра любоў да Беларусі? Нездарма ў народзе кажуць: *вер не сказу, а паказу*. А паказ – гэта пахавальная працэсія, якой Мураўёў-вешальнік пляскае ў ладкі.

Зразумела, і ад бацькоў залежыць, ці дойдзе тая працэсія да дна магільнай ямы. У “Фэйсбуку” зірнеш – усе змагары, усе за незалежнасць, усе скарысталіся перапісам, каб задэклараваць сябе патрыётамі Беларусі. А прыходзіць 1 верасня – і дзеці ды ўнукі тых змагароў пакорліва ідуць у рускія школы.

З другога боку, я іх разумею. Далёка не кожны адважыцца прыкаваць сябе кайданкамі да ганка школы, на якую, бразгаючы гусеніцамі, насоўваецца бульдозер…



**Міхась СКОБЛА.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Цугцванг

Статистика показала рост белорусского ВВП за 9 месяцев ровно на 1%. Заметным драйвером экономики остается ИТ-сектор во главе с ПВТ, который обеспечил больше половины этого скромного прироста. Традиционные отрасли стагнируют, а новые еще малы, чтобы вытягивать всю экономику. Грустная статистика стала сигналом для международных финансовых организаций пересмотреть свои прогнозы в отношении Беларуси в худшую сторону. Наши западные и восточные кредиторы ожидают прироста экономики в текущем году на 1,2–1,5%. МВФ, с которым белорусские экономические власти собираются вновь обсуждать кредит на 3–3,5 млрд долларов, и вовсе ожидает прироста ВВП в 2020 на 0,3%, что и есть стагнация.

Москва не дает ни кредита в 630 млн долларов для рефинансирования 75% прежних долгов, ни последнего транша кредита ЕФСР в 200 млн долларов, ни компенсации налогового маневра, как подсчитано – 400 млн долларов ежегодно. Не дает ничего. Даст ли после 8 декабря, когда президенты России и Беларуси подпишут документ об углубленной интеграции, – не известно. Как не известно и содержание этого документа. Да и вообще – подпишут ли?

На этом фоне правительству Беларуси приходится срочно пересматривать прогнозы на 2020 год, чтобы скорректировать «недостаточно напряженные планы», которые не устроили главу государства. Первоначальный инерционный план роста ВВП на 2,5% процента позволяет удержать экономику от финансовых дисбалансов, но закрепляет хроническое отставание белорусов в уровне благосостояния от почти всех ближайших соседних государств. Как результат этого отставания – усилившаяся миграция трудоспособного населения. Согласно официальным данным, в 2018 году эмигрировали из страны 15.200 человек. Но есть еще незарегистрированная миграция.

В отличие от прошлых лет на 2020 год запланирован дефицит республиканского бюджета в районе 1 млрд рублей. Надо изыскивать новые внешние и внутренние источники погашения очередных 3,5 млрд долларов по внешним долгам с учетом худшего варианта, если от России и в следующем году ничего не обломится. Союзник, находящийся во всё больших контрах с Западом, подводит Беларусь со всех сторон. Всемирный банк также ухудшил прогноз роста российской экономики до 1% в 2019-м и до 1,7% в 2020 году. Если стагниурет основной белорусский партнер, то как и куда белорусские экспортеры будут наращивать экспорт?

Для торможения белорусской экономики достаточно и своих внутренних причин: обремененный долгами государственный производственный сектор, темпы роста доходов населения, в разы обгоняющие рост производительности труда, хронический недостаток прямых иностранных инвестиций, отсутствие приватизации крупных предприятий, ручное управление экономикой, бюджетная поддержка потенциальных банкротов – госпредприятий и отраслей. Главным достижением последних лет правильно считать лишь укрощение инфляции и валютную стабилизацию, что смело можно отнести к заслугам Нацбанка.

Что касается правительства, то в создавшейся внутренней и внешней экономической обстановке ему не позавидуешь. Если исходить из худшего варианта, когда от России можно ждать милостей только за счет нашего суверенитета, встает вопрос: где взять средства для обслуживания госдолга? Попытки организовать дешевые государственные займы на китайском финансовом рынке пока ни к чему не привели, занимать в Европе с учетом нашего финансового рейтинга дорого. Со слов чиновников Минфина, есть договоренность о размещении займа в 500 миллионов долларов в эквиваленте на российском финансовом рынке. Но, во-первых, опять Россия, во-вторых, этого явно мало.

Поэтому возврат к активным переговорам с МВФ насчет дешевого кредита был предсказуем. Но многолетняя практика прежних переговоров с Фондом показывает: чтобы получить кредит, нужно приступить к реформам, которые давно расписаны для Беларуси. Главное в них – перестроить корпоративное управление государственным сектором страны. МВФ и Всемирный банк требуют быстрой, решительной и необратимой реструктуризации государственных предприятий. Судя по всему, правительство к этому готово, но ему не дает полномочий глава государства. Как заявляют высшие чиновники, теоретически новая программа с МВФ возможна, но не ранее президентских выборов. Если изменений в позиции главы государства не произойдет, а нашим внешним кредиторам нужна именно его официальная поддержка обсуждаемой кредитной программы, результаты этих переговоров будут, как и раньше, предрешены.

В шахматах есть такое положение, при котором любой следующий ход игрока ведет к ухудшению его позиции, – цугцванг. Однако в силу своей звучности и смысловой емкости это слово стали использовать и в более широком смысле. При этом имеется в виду ситуация, когда действие, равно как и бездействие, одинаково ведут к ухудшению положения. По-моему, складывающаяся в последние месяцы политико-экономическая ситуация в Беларуси очень напоминает: цугцванг, однако!

АФІЦЫЙНА

# Службу ў арміі будуць уключаць у страхавы стаж

Пра гэта паведаміла Міністэрства абароны. Адзначаецца, што ўрадам Беларусі па прапанове ваеннага ведамства прапрацаваны комплекс мер па павышэнні статусу ваеннаслужачых тэрміновай ваеннай службы. Пакет матывацыйных мер прадстаўлены Аляксандру Лукашэнку, і кіраўнік дзяржавы даў адпаведныя даручэнні падрыхтаваць праекты прававых актаў па рэалізацыі гэтых прапаноў. *“Частка з іх будзе ўнесена ўжо да 1 снежня, у тым ліку ўключэнне тэрміну тэрміновай ваеннай службы ў страхавы працоўны стаж”*, – адзначаецца ў паведамленні Мінабароны.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**



ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# Ці трэба вярнуць у страхавы стаж дэкрэтны адпачынак?

Ідэю Мінабароны ўключыць службу ў арміі ў страхавы стаж падтрымалі дэпутаты і афіцыйныя прафсаюзы. А вось з боку прадстаўнікоў Міністэрства фінансаў і Міністэрства працы і сацыяльнай абароны падчас абмеркавання гэтай ініцыятывы чуліся выказванні супраць. Напрыклад, міністр фінансаў **Максім Ермаловіч** заяўляў: *“Няўжо пенсія з’яўляецца асноўным фактарам, які ўплывае на прыняцце рашэння аб службе ў арміі? Мне здаецца, што гэта не так. Я не працаўнік, але за эфектыўнасць выкарыстання бюджэтных сродкаў адказваю”*. Міністр працы і сацыяльнай абароны **Ірына Касцевіч** заўважала: *“У нас страхавы стаж к 2025 году будзе 20 гадоў. Пенсіённы ўзрост для мужчын – 63 гады. 43 гады працоўнага актыўнага жыцця. І за гэтыя 43 праблема набраць 20 гадоў страхавога стажу?”*

Тым не менш у адрозненне ад дэкрэтнага адпачынку, тэрмін службы ў арміі вырашана ўключыць у страхавы стаж, хаця салдаты тэрміновай службы, таксама як і жанчыны ў дэкрэце, у гэты час не плацяць унёскі ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Ці справядліва гэта ў дачыненні да маладых мам, якія нарадзілі і гадуюць і будучых абаронцаў дзяржавы, і тых, хто будзе ўтрымліваць іх за кошт сваіх падаткаў? Што на гэты конт думаеце вы, паважаныя чытачы?

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

УЖАС!

# Отец-зверь и…

Несколько дней назад в районную больницу города Зельвы поступил четырехлетний ребенок в бессознательном состоянии. На тельце было множество кровоподтеков. Медики тут же поместили девочку в реанимацию и сообщили о ней в Следственный комитет. Началось расследование. По предварительным данным, малышку жестоко избил собственный отец. Она его ослушалась! «Мужчина стал трясти девочку, наносил удары руками и ногами. Затем несколько раз бросил ее на тахту, а также в стену, после чего она потеряла сознание. Испугавшись, мужчина вызвал «скорую», до приезда медиков сам пытался привести дочь в сознание», – сообщал СК.

Вчера пришло сообщение из Зельвы, что девочка умерла в больнице. Двадцатипятилетний изверг был задержан еще в пятницу, в отношении него возбуждено уголовное дело по ст.14 и п.2 ч.2 ст.139 УК (покушение на убийство заведомо малолетнего лица). Как выяснилось, девочка вместе с трехлетней сестрой находилась на попечении отца, который проживал с сожительницей. Мать девочек лишена родительских прав. Детей ранее забирали из семьи, государство признавало их положение там социально опасным. Но осенью 2018 года сестер вернули отцу.

Как органы опеки могли вернуть ребенка в такую неблагополучную семью? Почему ослабили к ней внимание, не видели, что творится в семье, не предупредили преступление? Наверняка отец ребенка не в один миг слетел с катушек и «вдруг» зверски избил дитя. Возможно, признаки психопатии, страсти к жестокости наблюдались у человека и ранее. Все это предстоит выяснить Следственному комитету. Наша газета тоже постарается дать читателям подробный отчет о злодеянии отца против беззащитного ребенка. Варварское преступление не может остаться всего лишь информационным сообщением в разделе «Уголовная хроника». Общество должно анализировать все факты садизма, которые происходят буквально у нас на глазах.

**Елена МОЛОЧКО.**

КАНФЛІКТ

# Цытаты Сталіна на Ракаўскіх могілках

У мястэчку Ракаў, што за трыццаць кіламетраў ад сталіцы, распачаўся канфлікт вакол старых каталіцкіх могілак. Мясцовыя ўлады, узяўшыся за добраўпарадкаванне некропаля (сярод іншых вядомых людзей там пахаваны кампазітар Міхал Грушвіцкі), пачалі спілоўваць старыя сосны. Прычым пад пілу ідуць усе дрэвы, што абурыла мясцовую каталіцкую парафію на чале з ксяндзом-пробашчам Дзмітрыем Барылам. Нягледзячы на некалькі сустрэч прадстаўнікоў парафіі з мясцовай уладай, лесапавал у цэнтральнай частцы могілак працягваецца. Мясцовыя людзі кажуць, што робіцца ён на сродкі аднаго ракаўскага прадпрымальніка, які такім чынам зарабляе сабе права быць пахаваным каля фамільнай капліцы Здзяхоўскіх, месца пры якой ужо расчышчана ад старых пахаванняў. Абурае ракаўчан і тое, што на могілках з’явіліся шыльдачкі з выказваннямі Сталіна пра падтрыманне парадку.




**Павел ПУШЧАНСКІ.**

ПАЗІЦЫЯ

# ...Каб агульная карціна не стала далёкай ад сапраўднай



Сёлетні перапісны марафон працягласцю амаль месяц (тады як ранейшыя перапісы «ўкладваліся» ў паўтара тыдня) выклікае нямала пытанняў, якія агучваюцца ў сродках масавай інфармацыі і ў сацыяльных сетках. У мяне разам з членамі сям'і таксама ўзніклі некаторыя заўвагі і пярэчанні падчас праходжання гэтага агульнарэспубліканскага апытання. А з некаторымі момантамі я дык увогуле не магу пагадзіцца, пра што зараз і хачу распавесці.

Безумоўна, кожны ўсеагульны перапіс насельніцтва, які праводзіцца раз у 10 гадоў, мае вялікае значэнне для планаў сацыяльна-эканамічнага развіцця любой краіны свету. Але ж перапіс 2019 года яскрава выявіў, на маю думку, адну негатыўную тэндэнцыю, якая добра адчуваецца пры яго параўнанні з папярэднімі мерапрыемствамі такога кшталту ў нашай краіне і за яе межамі.

У чым заключаецца сутнасць адмоўных перамен і што канкрэтна мяне насцярожыла і што выклікала нязгоду з праграмай сёлетняга перапісу? Калі адказаць гранічна шчыра і лаканічна, то негатыўная тэндэнцыя знайшла адлюстраванне найперш у відавочным нарастанні ўмяшальніцтва дзяржавы ў прыватнае жыццё сваіх грамадзян, чаго раней у такіх маштабах ніколі не заўважалася і што, дарэчы, забаронена Канстытуцыяй (арт.28: «Кожны мае права на абарону ад незаконнага ўмяшання ў яго асабістае жыццё, у тым ліку ад замаху на тайну яго карэспандэнцыі, тэлефонных і іншых паведамленняў, на яго гонар і годнасць»). Разам з тым адразу кідаецца ў вочы істотнае павелічэнне колькасці некарэктных, непажаданых і нават недапушчальных пытанняў, якім, мне здаецца, не павінна быць месца ў галоўным грамадзянскім апытанні краіны.

Фармальна празмернае ўмяшальніцтва дзяржавы ў асабістае і сямейнае жыццё грамадзян можна зафіксаваць ужо па факце ўзрастання колькасці перапісных пытанняў у некалькі разоў: калі ў перапісе 1989 года было ўсяго 13 пытанняў, то ў 1999-м іх стала 17, а ў 2019-м – ажно 49 (!). Але больш інфармацыі для роздумаў і пярэчанняў даюць не гэтыя сухія лічбы, а ў першую чаргу сутнаснае напаўненне пытанняў з іх сумніўнымі падтэкстамі. Дык вось, такое амаль трохразовае павелічэнне адбылося найперш за кошт тых пытанняў, з дапамогай якіх дзяржава імкнецца як мага больш «пранікнуць» у штодзённы побыт і нават у думкі і планы жыхароў нашай краіны, што бясспрэчна можа выклікаць у многіх людзей незадавальненне і пэўную абарончую рэакцыю.

Напрыклад, калі практычна ва ўсім свеце ў рэспандэнтаў пытаюцца толькі пра тое, якую мову яны самі лічаць роднай, то ў Беларусі ў 1999 годзе ўпершыню з'явілася пытанне пра мову, на якой чалавек размаўляе дома, а ў 2019-м пачалі ўжо пытацца пра родную мову, якую хтосьці загадзя чамусьці вызначыў як «першую засвоеную ў раннім дзяцінстве». На мой погляд, у такім выглядзе гэтыя пытанні, якія супярэчаць адпаведным рэкамендацыям ААН, з'яўляюцца недапушчальнымі.

Спытаецеся: чаму? А таму, што яны навязваюць чалавеку пэўнае разуменне роднай мовы – дарэчы, збольшага няслушнае, паколькі індывід можа лічыць сваю мову роднай зусім па іншых крытэрыях: напрыклад, мова далёкіх продкаў, шчырая любоў да бацькоўскага краю, павага да айчыннага фальклору і беларускай культуры, усвядомлены выбар роднай мовы ў сталым узросце і г.д. Лічу, што вышэйназваныя пытанні пра выкарыстанне пэўнай мовы ў межах пэўнай сям'і – абсалютна прыватная справа для кожнай асобы і ведаць пра гэта дзяржаве зусім не абавязкова.

Акрамя таго, тут яшчэ варта ўлічваць адзін патэнцыяльна магчымы небяспечны момант. Апошні заключаецца ў тым, што такая «езуіцкая» пастаноўка пытання аб роднай мове, як мове засвоенай у раннім дзяцінстве, бясспрэчна прывядзе, з улікам высокай ступені русіфікацыі жыхароў Беларусі ў (пост)савецкі час, да істотнага павышэння колькасці тых, хто пры шчырым адказе змушаны будзе назваць рускую мову. А гэта ў сваю чаргу ў бліжэйшай будучыні можа быць выкарыстана імперска-ваяўнічай Расіяй для спробы магчымай інкарпарацыі Беларусі ў яе склад, калі прыхільнікі такога дзеяння будуць казаць: «Дык навошта вам асобная дзяржава, калі ў вас столькі людзей з рускай роднай мовай – то бок рускіх!» А такога радыкальнага павароту нам аніяк нельга дапусціць, каб не страціць свайго дзяржаўнага суверэнітэту, каб не стаць чужынцамі на сваёй роднай зямлі.

Акрамя вышэйапісанага, у якасці тыповых прыкладаў занадта моцнага ўмяшальніцтва дзяржавы ў прыватнае жыццё грамадзян можна, напрыклад, назваць яшчэ пытанні: пра даходы людзей ад здачы ў арэнду маёмасці і атрыманыя дывідэнды па грашовых укладах; пра прычыны магчымага выезду за мяжу, сярод якіх у анкеце ёсць нават пошук прытулку (няўжо пэўныя органы такім чынам збіраюцца адсочваць тых, хто плануе атрымаць у замежжы палітычны прытулак?!); пра тых партнёраў, якія жывуць разам у незарэгістраваным шлюбе; пра намеры жанчын нараджаць ці не нараджаць дзяцей. Недарэчнасць і нават пэўная бессэнсоўнасць падобных пытанняў заключаецца не толькі ў тым, што любы чалавек мае законнае права захоўваць некаторыя фінансавыя таямніцы і весці сваё сямейнае жыццё так, як хочацца яму і яго спадарожніку, але і ў тым, што намеры і планы чалавека з-за розных абставін могуць лёгка памяняцца ў любы момант.

І ўжо зусім абсурдна выглядае ўключэнне ў праграму ўсеагульнага перапісу адмысловага «Апытальніка аб сельскагаспадарчай дзейнасці», дзе рэспандэнтам задаюцца пытанні пра плошчу зямельных участкаў, колькасць пладова-ягадных насаджэнняў і кустоў, а таксама пра колькасць жывёлы, птушкі і нават пчоласем'яў (!). А якая, прабачце, сур'ёзная сельскагаспадарчая дзейнасць можа весціся, скажам, бедным пенсіянерам-дачнікам на яго шасці, а то і на чатырох сотках?! Яшчэ не хапала яму, каб за вырашчаныя ягонымі рукамі вішні, парэчкі ці яблынькі дзяржава надумалася ўвесці (крый Божа!) адпаведны падатак. Упэўнены, што падобныя пытанні павінны датычыцца найперш разнастайных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, якія прафесійна займаюцца раслінаводствам і жывёлагадоўляй, маючы з гэтага стабільны і больш-менш значны прыбытак. А ў цэлым апытанне такога кшталту варта праводзіць не ў межах усеагульнага грамадзянскага перапісу, а падчас спецыяльных сельскагаспадарчых перапісаў, як тое практычна штогод робіцца ў цывілізаваных краінах свету. Таму варта і нам было б неадкладна правесці сельскагаспадарчы перапіс, які чамусьці раней у Рэспубліцы Беларусь ніколі не праводзіўся.

Мяркую, што высвятленне ўсіх пытанняў, пра якія раней ішла гаворка, можа выклікаць, з аднаго боку, цалкам заканамернае нежаданне часткі жыхароў удзельнічаць у гэтай рэспубліканскай акцыі, а з другога – (пад)свядомае імкненне людзей схаваць праўду ці прынамсі паведаміць паўпраўду (узгадаем вядомае народнае выслоўе «бойся ўсявышняга і не гавары лішняга»). А гэта, у сваю чаргу, натуральным чынам прывядзе да непазбежных скажэнняў вынікаў усеагульнага апытання. А калі яшчэ ўлічыць магчымыя фальсіфікацыі з боку тых асоб, хто непасрэдна перапісвае, апрацоўвае, падлічвае і канчаткова зацвярджае наверсе вынікі перапісу, то агульная карціна стане яшчэ больш далёкай ад сапраўднай. Такая сітуацыя нагадвае тую, якую ў свой час выдатны палітык і пісьменнік Вацлаў Гавел апісаў як «жыццё ў хлусні», калі адначасова і дзяржава падманвае людзей, і людзі падманваюць яе. Тады як для паспяховага развіцця грамадства варта заўсёды імкнуцца да «жыцця ў праўдзе». І вось гэтая сярмяжная жыццёвая праўда павінна гучаць паўсюдна – і ў высокіх чыноўніцкіх кабінетах, і ў працоўных ды вучэбных памяшканнях, і ў багатых і бедных сем'ях, і, натуральна, падчас правядзення перапісаў і давядзення да насельніцтва іх рэальных вынікаў.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,**
**сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў,**
**кандыдат гістарычных навук.**

МУДРЫЯ СЛОВЫ

*Адзінай мэты не зракуся,*
*І сэрца мне не задрыжыць:*
*Як жыць – дык жыць*
*для Беларусі,*
*А без яе – зусім ня жыць.*
***Ларыса ГЕНІЮШ.***



ЗВАНОК У РЭДАКЦЫЮ

## Дзякуй вам за газету!

Апошні нумар "Народнай Волі", як, дарэчы, і многія папярэднія, я не проста прачытала, а "праглынула". Як заўсёды, з цікавасцю сачу за публікацыямі Міхася Скоблы. І на гэты раз ён парадаваў чытачоў сваёй сотняй радкоў пра таленавітага мовaведа, руплівца на ніве беларусазнаўства Івана Лепешава. А яшчэ трохі раней – пра Паўла Сцяцко. Мне вельмі дарагія і блізкія такія тэмы, бо сама я па прафесіі – настаўніца беларускай мовы і літаратуры.

А як жа многа трэба ведаць пра Вялікабрытанію, каб зрабіць такое цікавае інтэрв'ю з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом ў Беларусі Жаклін Перкінс! І ўвогуле, па многіх публікацыях Алены Малочка я зрабіла выснову, што яна – вялікая разумніца.

Публікацыя Алеся Сівага пра жоўтыя ровары мяне так зачапіла, што верш Леаніда Трафімчыка вывучыла на памяць. Прызнаюся, у мае семдзесят пяць ровар – самы лепшы сродак перасоўвання, я з яго не злажу.

Каб нікога не пакрыўдзіць, скажу, што люблю чытаць усё, што пішацца ў нашу газету. Аднак хочацца асобна сказаць пра артыкулы Марыі Эйсмант Яны вельмі шматпланавыя, змястоўныя. А "прамыя лініі", якія яна разам з дактарамі рыхтуе да друку, чакаю з нецярпеннем, бо сама раблюся больш дасведчанай і многаму вучуся.

Дзякуй таксама ўласнаму карэспандэнту па Гродзенскай вобласці Міхалу Карневічу за ягонага "Місіянера"!

Паважаная рэдакцыя! Што да заўваг, то хацелася б прапанаваць, каб не друкавалася праграма тэлебачання. Столькі з'явілася б месца для цікавых матэрыялаў!

**Ірына Вікенцьеўна ПАЎЛОЎСКАЯ.**
*в.Каменка Нясвіжскага раёна.*

### *АД РЭДАКЦЫІ*

Дзякуй, Ірына Вікенцьеўна, за цёплыя словы!

Праграму тэлебачання можна было і не друкаваць, але ж многія чытачы выступаюць за яе з'яўленне на старонках газеты.

НАПЯРЭДАДНІ

*Звычайна восенню многія краіны пераводзяць стрэлкі гадзіннікаў. Што на гэты раз?*
**Ганна КУБЛІЦКАЯ.**

### Беларусь не будзе пераводзіць стрэлкі гадзіннікаў

У ноч з суботы на нядзелю Еўропа пераводзіць стрэлкі гадзіннікаў – на адну гадзіну назад. Праўда, Еўрапейскі Саюз дае магчымасць кожнай дзяржаве самой вырашаць, як паступіць. Літва і Латвія, хутчэй за ўсё, застануцца ў летнім часе, Эстонія хоча перайсці на зімовы, як, дарэчы, і Фінляндыя.

Пераводзіць стрэлкі гадзіннікаў і Украіна. А Беларусь? Мы пакідаем усё, як ёсць. Таму розніца ў часе паміж нашай сталіцай і ўкраінскай складзе гадзіну. А з Варшавай і Берлінам розніца будзе дзве гадзіны.

**Вольга КРЫВЕЦ.**

SOS!

## Уратаваць гістарычны помнік – святы абавязак дзяржавы

Паважаная «Народная Воля»!

На тваіх старонках друкуецца нямала матэрыялаў, у якіх выказваецца трывога за стан гістарычных помнікаў. Вось і маё пісьмо на гэты конт.

На тэрыторыі Валынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці знаходзіцца гарадзішча з размешчаным на ім манастыром бернардзінак XVII стагоддзя. Тэрыторыя гарадзішча разам з руінамі кляштара ўнесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь, мае статус І катэгорыі помніка і павінна ахоўвацца дзяржавай.

Але што мы бачым? Усё Валынскае ўмацаванне страшэнна занядбана. Кляштар, у якім да Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся вайсковы шпіталь, сёння безгаспадарны, не мае асобнага шыфру ў Дзяржаўным спісе, але ўяўляе вялікую гістарычную каштоўнасць – адзіны аўтэнтычны архітэктурны аб'ект, які не быў разбураны падчас зносу горада Брэста Расійскай імперыяй з мэтай узвесці на яго месцы Брэсцкую крэпасць.

У верасні 1939 года і ў першыя гадзіны Вялікай Айчыннай вайны асноўны будынак і тэрыторыя шпіталю былі падвергнуты бамбардзіроўцы фашыстамі, якія ўчынілі тут 22 чэрвеня 1941 года нечуванае злачынства – расстралялі безабаронных хворых і раненых чырвонаармейцаў, мірных жыхароў, дзяцей і медперсанал шпіталя, аб чым сведчаць астанкі палеглых, знойдзеныя тут пазней пры пошукавых работах.

У канцы 1980-х гадоў вакол руін манастыра бернардзінак прафесійнымі археолагамі пры падтрымцы Міністэрства культуры былі распачаты археалагічныя даследаванні. У выніку былі адкрыты сутарэнні, старажытныя падмуркі, рэшткі сцен, частка манастырскай плошчы і шмат іншых старадаўніх збудаванняў сярэднявечнага горада. На пачатку 1990-х археалагічныя даследаванні былі спынены, раскопы спачатку былі ўкрыты дашчаным насцілам, але за многія гады ён разбурыўся, а раскопы аплылі і зараслі бур'янам.

Некалькі спроб расчысціць руіны кляштара ад хмызняку зрабілі маладзёжныя арганізацыі валанцёраў, але падтрымкі з боку дзяржаўных структур яны не атрымалі. Асобнымі архітэктарамі Брэста прапаноўваліся розныя праекты культурнага асваення старажытнага гарадзішча і руін некаторых аб'ектаў Брэсцкай крэпасці пад забаўляльныя ўстановы, патрэбы спартыўных, маладзёжных і іншых грамадскіх аб'яднанняў, але ўсе гэтыя высілкі не мелі рэальнай падтрымкі ні з боку грамадскіх арганізацый, ні з боку ўлады.

У перыяд падрыхтоўкі да 1000-годдзя Брэста гарадзішча і руіны былога кляштара бернардзінак (вайсковага шпіталю Брэсцкай крэпасці) не былі ўнесены ў прэзідэнцкую праграму аднаўлення і рэабілітацыі, нягледзячы на шматлікія просьбы грамадскасці, таму пышнае святкаванне вялікага юбілею прайшло без Берасцейскага гарадзішча. Усё звялося да ўладкавання тэрыторый мемарыяла «Брэсцкая крэпасць-герой» і археалагічнага музея «Бярэсце», якія былі адкрыты яшчэ 40–50 гадоў таму, між іншым, савецкімі ўладамі.

Сённяшнія кіраўнікі горада, вобласці і Міністэрства культуры, рыхтуючыся да 1000-годдзя горада, не зрабілі ніякіх новых адкрыццяў на старажытным гарадзішчы, не падрыхтавалі навуковую канцэпцыю яго культурнага асваення, нават не зрэагавалі на нашы просьбы хаця б распачаць навуковыя гістарычныя і археалагічныя даследаванні ды правядзенне супрацьаварыйных і кансервацыйных работ на руінах былога кляштара бернардзінак. Заўважу: мы, мясцовыя актывісты, прапаноўвалі выкарыстаць у перспектыве будынак былога кляштара (шпіталю) пад музей гісторыі і архітэктуры г.Брэста XVI–XIX стагоддзяў. Грамадскасць прапанавала ўладам горада і вобласці праекты рашэнняў «Аб паэтапнай рэстаўрацыі былога кляштара (шпіталю) пад музейны аб'ект», але ніякіх захадаў з боку ўладных структур у гэтым накірунку не было зроблена.

Такім чынам, адзіны ўнікальны, аўтэнтычны архітэктурны аб'ект сярэднявечнага Брэста застаецца па-за ўвагай дзяржавы. Нельга дапусціць, каб згінуў гістарычны помнік. Уратаваць яго – святы абавязак і дзяржавы, і ўсіх, хто жыве на нашай шматпакутнай зямлі!

**Леанід НЕСЦЯРЧУК,**
**старшыня Брэсцкага грамадскага культурна-гістарычнага аб'яднання імя Т.Касцюшкі, кандыдат гістарычных навук.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Не варта жыць у блудзе: маёмасць цэлай будзе

50-гадовы мінчук, скарыстаўшыся адсутнасцю жонкі, прывёў у кватэру 57-гадовую «жанчыну з вуліцы». Калі прачнуўся, дык хапіўся, што зніклі жончыны каштоўнасці і чайны сервіз. Ні жонцы, ні міліцыянерам блуднік не змог назваць нават імя «палюбоўніцы». Зрэшты, яе ўсё ж знайшлі і затрымалі…

Хоць шумна, весела ў сталіцы
І можна разагнаць тугу,
Муж у кватэры – бы ў цямніцы,
У жонкі быў «на ланцугу».
У людзі не давала выйсці,
Баялася, што пойдзе ў блуд.
І раптам з'ехала кудысьці,
Сказаўшы:
– Не дурэй жа тут!
Не пі гарэлку і «чарніла»,
Баб у кватэру не прыводзь…
Такое шчасце прывaліла –
Нібы паслаў яго Гасподзь!
Як толькі з'ехала «палова»
(Інакш гаворачы, пастух),
Яго жыццё пайшло нанова,
Нібыта ён парваў ланцуг.
Дастаў заначку першым чынам
(А грошай назапасіў шмат).
Мужык адчуў сябе мужчынам,
Як калісь, дваццаць год назад!
За вушы пырснуўшы парфуму
(То быў трайны адэкалон),
Мужык нядоўга думаў думу –
На паляванне выйшаў ён.
А згаладалы паляўнічы
У лес далёка не ідзе,
І рады ён любой здабычы.
Мужык не стаў шукаць нідзе
Аб'ект для оргій: дзякуй богу,
Кабет нямала і ў двары,
А варта перайсці дарогу –
Любую стрэчную бяры!
Так ён лічыў. І неўзабаве,
Хоць выглядаў, як халтама,
Дурыў мазгі на самай справе
Адной немаладой шалаве,
Што палявала і сама.
Каб уламаць, як кажуць, даму,
Каб стала пекнаю яна,
Мужык зрабіў рывок у краму,
Купіў гарэлкі і віна.
Засеўшы разам у кватэры,
Пілі адчайна, наўзахлёб,
Мужык не знаў наогул меры
І, адключыўшыся, захроп.
«Самец» прачнуўся толькі ўранку
І не на ложку – пад сталом.
З кватэры «пекную каханку»
Змяло ўжо, быццам памялом.
А заадно змяло пярсцёнкі,
Кальe, каралі і сервіз.
І непрыемным быў для жонкі,
Калі вярнулася, сюрпрыз.
Ад жонкі – не адны праклёны…
Утаймавалася, калі
Шалаву нашы пінкертоны
І ўсе каштоўнасці знайшлі.

* * *

Баяўся, пхаючы за дзверы,
Муж у мінулыя часы,
Што палюбоўніца ў кватэры
Забудзе ліфчык ці трусы
І што турне «палова» з дому.
Цяпер інакшы час прыйшоў:
Баяцца трэба, каб самому
Не заставацца «без трусоў»…

### Лепшы падарунак

– Хочаш, падару табе Сусвет?
Неба, зоркі з безліччу планет!
Імі ты валодацьмеш сама!
– Грошай у цябе зусім няма?

### Страшнае пакаранне

Для мяне абрыс – як на далоні:
Калі пройдзе многа зім і лет,
Дык не будзе турмаў і калоній –
Проста адключацьмуць інтэрнэт.

### Закон для дурня

Вядома ўсім яшчэ здавён:
Дурным не пісаны закон.
Звычайна дурню-гламаздзе
Зачытваюць яго ў судзе.

### Пахвала ці папрок?

Бос пахвалою агарошыў:
– Ты ўчора быў такі харошы!..

### Мала сэнсу заляцацца

Калі ў трамваі вельмі міла
Дзяўчына вам прапанавала
Прысесці, месца саступіла,
Дык заляцацца сэнсу мала…

### Чароўная фраза

Чароўная студэнта фраза:
«Дапамажы і гэтым разам,
Прышлі мне, мама, грошы зноў:
Больш не магу здаваць я кроў…»

### Дзве тэмы

Малюнак заўсягды такі:
Як вып'юць нашы мужыкі,
Пра што ім гаварыць ахвота?
Ды тэма ў іх адна – работа.
А прыйдуць на работу ўранку,
Дык толькі й пляцкаюць пра п'янку…

ОСОБЫЙ СЛУЧАЙ

# Валерий ИЛЬИН: «Надеюсь, снова буду ходить и летать...»

*Валерий Ильин – профессиональный пилот. В последнее время он жил на две страны: два месяца проводил Объединенных Арабских Эмиратах, где работал по контракту в иностранной авиакомпании, месяц – в Беларуси с семьей. Последняя командировка в Эмираты оказалась для Валерия не очень удачной – на родину он вернулся в инвалидном кресле. Ноги парализовало внезапно, на фоне, казалось бы, полного здоровья. Врачи не исключают, что причиной случившегося мог быть укус насекомого. Токсин попал в кровь, организм начал вырабатывать антитела, которые блокировали нервные окончания…*

*В госпитале в Эмиратах Валерий Ильин провел пять дней. И перед самой выпиской был шокирован новостью о том, что компания «Белгосстрах» отказывается покрыть расходы на лечение…*

– Я попал в госпиталь в Дубае по страховке, – *спокойно, без эмоций рассказывает свою историю Валерий Борисович*. – Я был в командировке. Работаю я не первый год, все официально, и всегда оформляю медицинскую страховку. Так было и в этот раз. 1 июня этого года я купил страховку в «Белгосстрахе», причем купил заранее, зная, что у меня контракт. А в командировку улетел 16 августа.

В Эмиратах была обычная работа. Мы летали в Оман, оттуда в Саудовскую Аравию и обратно. 10 сентября всё было как обычно. Мы вернулись из рейса в Дубай. На следующее утро я встал, позавтракал, пообщался с ребятами, вернулся в номер и почувствовал, что начинают неметь ноги. Причем обе одновременно. От стоп пошло вверх. Всё произошло как-то мгновенно, я не мог передвигаться даже по номеру гостиницы. Позвонил в офис, объяснил ситуацию, мне прислали водителя, который отвез меня в госпиталь. Параллельно я позвонил в страховую компанию. Мне сказали, что могу обратиться в любой ближайший госпиталь. Затем я уже оттуда сообщил им, где нахожусь, послал свой номер полиса и фотографию страницы паспорта со штампом о пересечении границы в Домодедово. Потом они связались со мной еще раз и гарантировали покрытие расходов на лечение. Общаться пришлось в роуминге (интернета в госпитале не было), который обошелся мне в 300 белорусских рублей.

Я пролежал в госпитале пять дней. Когда меня уже выписывали, мне вдруг сообщают: мы не можем вас отпустить, потому что страховая компания не покрывает расходы. Вам придется оплатить лечение самому.

**– О какой сумме шла речь?**

– Чуть больше 1500 долларов. Я заплатил ее самостоятельно, и меня отпустили из госпиталя. Я вернулся в Минск.

**– Это хорошо, что у вас были деньги и вы могли заплатить. А если бы нет?**

– Да, у меня была карта. В другом случае пришлось бы связываться с офисом, компания оплатила бы, но нервотрепка была бы.



**– А почему страховая отказалась платить?**

– Дело в том, что «Белгосстрах» напрямую с Эмиратами не работает, он работает через своих партнеров, которые выступают как посредники.

**– Но когда вы оформляли страховку, страховой агент знал, что вы летите именно в Эмираты?**

– Да, конечно. В страховке было указано, что я лечу на работу, был указан регион, в котором буду находиться, – Юго-Восточная Азия, Ближний Восток плюс страны Шенгенской зоны. Страховка была не минимальная, а, наоборот, с максимальным покрытием. И до последнего дня мне гарантировали оплату расходов на лечение, а потом выяснилось, что «Белгосстрах» не предоставил компании-партнеру в Эмиратах пакет каких-то необходимых документов, поэтому я вынужден был оплачивать лечение сам.

ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

*Валерий Ильин.*
*Пилот.*
*56 лет.*
*Летает с 1986 года.*
*Работал в «Белавиа», в компании «Трансавиаэкспорт».*

Я прилетел в Минск и сразу снова попал в больницу.

**– В Эмиратах вас не смогли поставить на ноги?**

– Нет. Я приехал в инвалидном кресле. Пять дней в госпитале в Эмиратах снимали острые симптомы, проводили исследования и в конце концов сказали, что нужно будет долечиваться дома. 17 сентября я прилетел в Минск, а на следующий день лег в Больницу скорой помощи. Сейчас лечусь в РНПЦ неврологии и нейрохирургии, здесь уже получаю профильное лечение.



**– А что вообще говорят врачи? Что с вами случилось, почему парализовало ноги?**

– Было несколько версий. В «скорой помощи» сначала ставили диагноз «стеноз позвоночника», но потом отказались от него, сказали, что у меня не те симптомы. Затем поставили синдром Гийена-Барре – это когда в кровь после укуса какого-то насекомого попадает токсин, и через некоторое время организм начинает вырабатывать антитела, блокирующие некоторые нервные окончания. А сейчас в РНПЦ неврологии уточняют всё заново.

**– А какие прогнозы: будете ходить или нет?**

– Чувствительность в одной ноге вроде бы появилась. Я уже могу вставать. Сейчас стартует следующий этап лечения. Врачи дают 80 процентов гарантии, что восстановлюсь. Спасибо большое докторам РНПЦ неврологии и нейрохирургии за отношение! После «скорой помощи» – это просто небо и земля! Ну а как будет дальше с ногами – не известно. Главное – есть шансы! И я надеюсь, что всё будет хорошо.

Доктора не исключают, что мог быть укус, которого я даже и не заметил. Я тоже анализировал, что могло произойти. У нас из Дубая был рейс в Ханой. И примерно через неделю после этого у меня отказали ноги. Может, в Ханое меня какая-то муха укусила. Там как раз были сильные тропические ливни и много комаров, эти тучи комаров мне особенно запомнились…

Страховая компания, конечно, повела себя весьма странным образом. Жена отвезла им все оригиналы документов из Эмиратов, из госпиталя. Они их приняли, и вот пару дней назад они прислали письмо, где идет речь о том, что я не предоставил подтверждения, что находился в Азии: *«В представленном Вами пакете документов отсутствует документ, подтверждающий период(-ы) нахождения Ильина В.Б. на территории стран Азии и стран Шенгенского соглашения с даты начала действия договора страхования»*. Таким доказательством может быть штамп о пересечении границы либо командировочное удостоверение (причем фраза про командировочное удостоверение выделена курсивом). Но самое удивительное, что я предоставил паспорт, в котором стоит штамп, подтверждающий, что я вылетал в Абу-Даби из Москвы. Я созвонился с сотрудником «Белгосстраха», который готовил этот документ, и сказал: все штампы о пересечении границ есть в моем паспорте. У нас с Москвой нет границы, и никто не ставит штамп о пересечении границы с Россией. Мне приводят новый довод: мол, Россия не является зоной покрытия вашего страхового полиса.

**– Так а при чем здесь Россия? Страховой случай произошел с вами в Дубае, и у вас была страховка.**

– Так и я об этом же! Меня спрашивают: почему вы вылетали не из Минска, почему из России? Мне купили билет через Москву, и я полетел. В чем проблема? В ответ тишина…

Я созвонился с заместителем начальника медицинского управления «Белгосстраха» Ольгой Красуцкой – ее подпись стоит под тем документом, который мне прислали. Снова всё объяснил. Она спрашивает: «Почему вы купили страховку 1 июня, а улетели в командировку 16 августа?» А это разве преступление? Я знал, что еду в командировку, поэтому купил страховку заранее, с необходимым коридором дней. Это мое дело, когда я ее покупаю. Почему я должен доказывать, что с 1 июня по 16 августа никуда не вылетал и не пользовался страховкой, если в паспорте есть все штампы о пересечении границы? В страховой компании, видимо, решили, что я мог выехать куда-то и превысить лимит в 90 дней. Хотя у меня в паспорте за этот период только печать о том, что я вылетел из Москвы. Других отметок нет.

Еще я спросил у Красуцкой, почему с меня требуют предоставить копию командировочного удостоверения, когда эти удостоверения отменены постановлением Совета министров.

**– Вы говорите, что работали в Эмиратах официально, по контракту. Это разве не является подтверждением?**

– Да, контракт у меня есть. И страховка действующая. Причем с максимальным покрытием. Я когда ее покупал, сказал: мне нужна страховка безусловная, чтобы, если что-то случится, она меня ни в чем не ограничивала.

Я раньше никогда не сталкивался с подобным. Мне казалось: если я покупаю страховку и выполняю все обязательства, предоставляю все документы, какие вопросы могут ко мне возникать?

Но я не теряю надежды. Надеюсь, что моя история будет со счастливым концом. Я снова буду ходить и летать, а страховая компания компенсирует все расходы.

**Марина КОКТЫШ.**

**На фото: Пилот «Боинга 747» Валерий Ильин сейчас и до болезни.**

А ЧТО ГОВОРИТ ВТОРАЯ СТОРОНА?

## Сергей ЯКУБИЦКИЙ: «Вопрос решен, все выплаты сделаны»



*«Народная Воля» связалась с руководством Белорусского республиканского унитарного страхового предприятия «Белгосстрах», чтобы выяснить, почему пилоту Валерию Ильину отказались оплатить лечение по страховке.*

*После нашего звонка генеральный директор компании «Белгосстрах» **Сергей Якубицкий** моментально взял это дело на свой контроль и буквально за пару часов вопрос с компенсацией расходов на лечение был решен.*

– Я лично вместе со своими сотрудниками всё посмотрел, официально к нам документы, включая страницы паспорта, поступили 14 октября, они были рассмотрены, и в пятницу 18 октября возмещение было перечислено, – *сказал Сергей Леонидович «Народной Воле»*.

**– Сергей Леонидович, спасибо за ваше отношение и моментальную реакцию. Хочу еще спросить: а как часто случаются подобные истории и на что нужно обращать внимание в первую очередь, оформляя страховку?**

– Мы всегда даем гарантии оплаты лечения. И в данном случае тоже была дана гарантия. А дальше мы уже разбираемся. Ведь наши люди стараются сэкономить буквально на всем. Когда идут получать визу, чаще всего выписывают страховку не на весь срок визы, а только для ее получения – как правило, на 30 дней. И когда начинают ездить, не всегда следят за количеством дней, проведенных за границей. Сейчас визы выдают на четыре-пять лет, страховой коридор может быть выписан на пять лет, а срок нахождения за границей – лишь 30 дней. Поэтому мы проверяем по штампам, чтобы реально посчитать, сколько человек был за границей и на какой период действия страховки случился страховой случай. Для этого мы и требуем копии страниц паспорта. Мы должны произвести выплаты правильно, поэтому и требуем документы.

Лично у меня принцип такой – вначале помочь нашим людям, которые находятся за границей и попали в трудную ситуацию, а потом уже разбираться, что там к чему.

---

СТОП-КАДР

## Калаур правёў для школьнікаў «грашовую» экскурсію

У мінулую суботу вучні 5 «А» класа сярэдняй школы №9 Пінска сталі першымі наведвальнікамі абноўленага музея грошай у Нацыянальным банку. Пераможцаў конкурсу відэавіншаванняў да 25-годдзя беларускага рубля сустрэў асабіста старшыня праўлення Нацбанка Павел Калаур.

**На здымку: Павел Калаур праводзіць экскурсію па Нацыянальным банку.**




ПАЛІТКУХНЯ

## На чацвярых – па тысячы долараў

*Учора Мінскі гарадскі суд разгледзіў апеляцыю беларускіх апазіцыянераў на рашэнне суда Маскоўскага раёна Мінска аб скасаванні дамовы на аказанне паслуг па ахове грамадскага правапарадку падчас святкавання Дня Волі ў Кіеўскім скверы 24 сакавіка і пакінуў гэтае рашэнне ў сіле.*

Такім чынам, арганізатары акцыі **Ігар Барысаў, Юрый Губарэвіч, Вольга Кавалькова і Мікалай Казлоў** павінны заплаціць 8013 рублёў і ў дадатак – 400 рублёў судовых выдаткаў.

– Зараз у нас выбар невялікі, – распавёў "Народнай Волі" **Юрый Губарэвіч**. – Трэба альбо самастойна выплачваць грошы на неабходныя рахункі, альба да цябе дадому прыйдуць судовыя выканаўцы, апішуць маёмасць і возьмуць грошы з таго, што будзе канфіскавана.

**– Як у такой сітуацыі паступіце?**

– Будзем раіцца з астатнімі заяўнікамі. Нехта, магчыма, захоча маёмасцю ахвяраваць, хтосьці грашыма аддасць… Кожнаму трэба заплаціць амаль па тысячы долараў.

І зараз я прапаную ўнесці папраўкі ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Калі сыходзіць з сённяшняй сітуацыі, то артыкул "Свабода сходаў" абавязкова павінен быць дапоўнены тарыфнай сеткай. Было б сумленна ў адносінах да людзей замацаваць у Асноўным законе ўсе расцэнкі на правы і свабоды. Думаю, ужо далей дэвальваваць значэнне Канстытуцыі няма куды.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НУ І НУ!

## Нахлусіла міліцыі, каб атрымаць бальнічны

*Цяпер і сама не рада.*

Хітрую схему прыдумала 25-гадовая жыхарка Маладзечна, каб атрымаць бальнічны ліст. Яна паведаміла ў РАУС, што стала ахвярай разбою. А для праўдападобнасці прадэманстравала міліцыянтам свае рукі з парэзамі: маўляў, злодзей не толькі вырваў з яе рук сумку з кашальком, але і нажыкам па іх прайшоўся.

Паводле звестак групы інфармацыйных і грамадскіх сувязяў Маладзечанскага РАУС, пасля таго как жанчына паведаміла па тэлефоне пра напад на яе ў гарадскім парку і выкраданне сумкі, дадому да яе прыехалі аператыўнікі. Яны хутка разабраліся, што "злачынства" – цалкам плён фантазіі "пацярпелай".

Высветлілася, што, каб атрымаць законнае вызваленне ад працы, выназдвяўшая кабета парэзала сабе рукі суседскім кухонным нажом і выклікала "хуткую дапамогу". У прыёмным пакоі бальніцы пасля агляду парэзаў бальнічны ёй не выдалі і адправілі дадому. Расчараваная такім ходам падзей, маладзіца вырашыла, што дамагчыся задуманага ёй удасца іншым шляхам – пры дапамозе міліцыі. Аднак і тут не пашчасціла.

Дзеянні фантазёркі могуць быць кваліфікаваны як загадзя ілжывы данос, што прадугледжвае пакаранне да 5 гадоў пазбаўлення волі.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

## ГЛАЗАМИ СЕРГЕЯ ЕЛКИНА

*Политические карикатуры российского художника* ***Сергея Елкина*** *почти ежедневно появляются на онлайн-страницах медиакомпании Deutsche Welle. Будь то скандал о возможных связях Трампа с Россией, антикоррупционная деятельность Навального, внешняя политика Путина или переговоры по Brexit – работы Елкина лаконично и в ироничной манере обыгрывают злоупотребления властью и абсурдные действия политиков. В мае 2017 года он стал одним из лауреатов премии независимой журналистики в Восточной Европе Free Media Award, которой фонд Fritt Ord в Осло и фонд Die Zeit-Stiftung Ebelin und Gerd Bucerius в Гамбурге награждают независимых журналистов и СМИ (DW).*

### Кто станет преемником Путина, или Старая песня о главном

**Тема транзита власти в России и преемника Владимира Путина на посту президента страны вновь всплыла в различных СМИ в начале октября.**




### Трамп бросил курдов на произвол Эрдогана

**Турция начала наступление на позиции курдов в Сирии после того, как президент США приказал вывести оттуда американских военных.**




### Гимн РФ в Саудовской Аравии - музыкальное испытание для Путина

**В ходе визита Владимира Путина в Саудовскую Аравию местный оркестр сыграл гимн РФ. Получилось плохо.**




### Штрафы для оппозиции - в копилку Росгвардии?

**Власти в РФ всячески хотят наказать оппозицию за акции протеста. В аресте имущества Навального сотоварищи суд отказал, но ранее и штрафы налагал, и ущерб требовал возместить. В чью пользу?**




НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# Чем живет сегодня немецкая молодежь

*Представители молодого поколения немцев открыты миру, толерантны, озабочены проблемами экологии, довольны своей жизнью в Германии и, несмотря на беспокойство в связи с изменением климата на планете и ростом терроризма, с оптимизмом смотрят в будущее. Таковы главные итоги масштабного исследования компании Shell «Молодежь-2019», участниками которого стали жители Германии в возрасте от 12 до 25 лет.*

### Интерес к политике и экологии

У молодых немцев очень высок интерес к политике. Они придают большое значение активному участию в политической деятельности. Причем число приверженцев такой позиции особенно быстро растет среди девушек.

Как показало исследование Shell, по мнению 71% респондентов, самая важная проблема современности – загрязнение окружающей среды.

Более половины молодых людей, принявших участие в опросах, с оптимизмом смотрят в будущее Германии.

Половина респондентов положительно относятся к Евросоюзу. Отрицательно воспринимают ЕС лишь 8%. Как показал опрос, доверие к ЕС за последние полтора десятка лет возросло, и в первую очередь благодаря свободе передвижения граждан, культурному многообразию. Позитивную оценку молодые немцы дают и тому, что за период с 2006 года в ЕС заметно выросло экономическое благосостояние общества, усовершенствовалась система социального обеспечения населения.



### Многообразие и толерантность

68% опрошенных считают, что об иностранцах в Германии лучше ничего плохого не говорить, иначе тебя будут считать расистом. По результатам исследования Shell, западные немцы и молодежь с высшим образованием более космополитичны, нежели жители восточной части страны и люди без высшего образования. Немцы выступают за многообразие культур. Большинство живущих в Германии девушек и юношей положительно относятся к представителям самых разных общественных групп, этнических и сексуальных меньшинств.

При этом каждый десятый опрошенный согласен с целым набором высказываний популистского характера, предложенных с целью понять, насколько падки немецкие юноши и девушки на громкие заявления политиков-популистов. Эксперты сделали выводы, что немецким школам стоит в этой связи больше внимания уделять ознакомлению молодежи с основами политического устройства общества и политической риторики в целом.

### Демократия и религиозность

Более двух третей респондентов довольны уровнем развития демократических институтов в стране. На западе Германии таковых 78%, а на востоке 66%.

Свыше двух третей девушек и юношей критикуют политиков за то, что те недостаточно защищают интересы молодежи. Среди инстанций, пользующихся наибольшим доверием молодых немцев, на первом плане оказались полиция, конституционный суд, природоохранные организации. Гораздо меньше опрошенные доверяют крупным компаниям, церквям, политическим партиям и банкам.

При этом большинство опрошенных являются членами различных религиозных общин. В то время как христианские конфессии своих прихожан из числа молодежи постоянно теряют, ряды мусульман, а также прихожан других нехристианских общин пополняются.

### Ценностные ориентиры

Дружба, партнерство, семья – таковы главные ценности для подавляющего большинства респондентов. А вот высокий уровень жизни и материальные блага утрачивают былое значение. При этом у молодых немцев растет стремление к власти и осуществлению своих намерений. Молодое поколение становится всё более амбициозным.

Для современной молодежи по-прежнему ценна семья. Отношения с родителями у большинства (92%) молодых немцев хорошие. 74% опрошенных видят в своих родителях образец для подражания. Среднестатистический молодой немец планирует создать собственную семью и иметь детей. При этом девушки и юноши, проживающие на западе Германии, придерживаются установки, что главным либо даже единственным кормильцем в семье должен быть мужчина.

97% опрошенных указали, что в их жизни очень важную роль играют друзья.

**(По материалам «Дойче Велле».)**

НУ И НУ!

# США атаковали змееголовы с Дальнего Востока

*Служба контроля дикой природы американского штата Джорджия предупредила население, что в штат проникли змееголовые рыбы. Экологи предупреждают: при встрече со змееголовом его следует убить, заморозить и немедленно сообщить о находке властям.*



Змееголовы обитают на Дальнем Востоке в реке Амур, а также в водоемах Корейского полуострова. Рыбы отличаются неимоверным аппетитом и способностью дышать на суше, по которой они ползают, как змеи. Иногда их называют пресноводным танком, так как они поедают все на своем пути.

В США змееголовы стали появляться в отдельных водоемах несколько десятилетий назад, но в последнее время территория их обитания расширилась. Импорт и транспортировка змееголова были запрещены на федеральном уровне еще в 2002 году, но, несмотря на запрет, их обнаружили уже в 15 штатах, в том числе в Центральном парке Нью-Йорка, в штате Мэриленд, в Бостоне, Калифорнии, Флориде, Северной Каролине…

Предполагается, что некоторые американские любители экзотики держали хищников дома в аквариумах, но затем, испугавшись, стали избавляться от них, сливая в водоемы и канализацию, где они приспособились к местным условиям и расплодились.

Ученые пытаются создать карту распространения змееголовов, чтобы понять, как лучше с ними бороться.

Власти штата Джорджия призывают всех, кому попадутся змееголовы, уничтожать их немедленно и сразу класть в морозилку, после чего ставить в известность местные власти.

УРАЖАННІ

# Пераяслаў блізкі і далёкі

Пераяслаў-Хмяльніцкі – 27-тысячны горад на паўднёвым усходзе Кіеўскай вобласці, пабрацім беларускай Вілейкі. На працягу апошніх 12 гадоў мне не адзін раз даводзілася ў ім бываць. Гуляючы па вуліцах, сустракаючыся са знаёмымі, заўсёды параўноўваю іх, украінцаў, лад жыцця з нашым.

Пяці- і дзевяціпавярховыя дамы, школы, адміністрацыйныя будынкі – усе гэта вельмі падобнае да нашага. Але, як ні дзіўна, яшчэ ў савецкія часы ў адносна невялікім горадзе быў створаны Пераяслаў-Хмяльніцкі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Рыгора Скаварады. Прывілеяванае становішча горада ў савецкія часы тлумачылася тым, што менавіта тут у 1654 годзе адбылася знакамітая Пераяслаўская рада, на якой большасць казацтва на чале з Багданам Хмяльніцкім выказалася за яднанне Левабярэжнай Украіны з Царствам Маскоўскім пры захаванні гетманскага кіравання на ўкраінскіх землях. Як вядома з гісторыі, такая канструкцыя праіснавала да 1764 года, калі Кацярына Другая ліквідавала гетманства і падзяліла ўкраінскія землі на губерні.

У цэнтры Пераяслава-Хмяльніцкага да гэтай пары знаходзіцца пастаўлены ў 1654 годзе помнік, прысвечаны Пераяслаўскай радзе. Побач з гэтым помнікам – прыгожыя фантан і парк. У гонар тых далёкіх падзей у 1943 годзе горад Пераяслаў быў перайменаваны ў Пераяслаў-Хмяльніцкі.

Яшчэ адно адрозненне ад Беларусі – у структуры мясцовых органаў улады. Згодна з украінскім заканадаўствам, гарадскі галава выбіраецца насельніцтвам, а галава раённай адміністрацыі прызначаецца кіраўніком абласной дзяржаўнай адміністрацыі са згоды прэзідэнта краіны. Палітычныя сімпатыі большасці тутэйшых жыхароў, як і ў іншых месцах Цэнтральнай Украіны, належаць палітычнай партыі «Слуга народа».

Увогуле, Пераяслаў – горад, багаты на культурную спадчыну. Тут на працягу многіх дзесяцігоддзяў працуе Нацыянальны гісторыка-этнаграфічны запаведнік, у складзе якога 24 тэматычныя музейныя экспазіцыі, прысвечаныя казакам і кабзарам, побыту ўкраінскай вёскі ў XVIII–XIX стагоддзях. Класічная ўкраінская мова ў вуснах большасці мясцовых жыхароў добра спалучаецца з багаццем гістарычных помнікаў у горадзе. У адрозненне ад беларускіх гарадоў рускую гутарку тут пачуеш рэдка.





Згодна з мясцовай статыстыкай, сярэдняя зарплата ў горадзе ў першым квартале 2019 года склала 8625 грывень (крыху больш за 300 долараў), што нязначна адрозніваецца ад паказчыкаў беларускага горада-пабраціма Вілейкі. Зразумела, мясцовыя чыноўнікі атрымліваюць больш – у межах 12–18 тысяч грывень. Галоўнымі падаткаплацельшчыкамі горада з'яўляюцца таварыствы з абмежаванай адказнасцю «ЮГЕНЕРГОПРОМТРАНС» (спецыялізуецца на вырабе электраэнергіі па «зяленым тарыфе»), «Костал Украіна» (вытворчасць дэталяў да еўрапейскіх аўтамабіляў-легкавікоў), а таксама прадпрыемствы лёгкай прамысловасці – карпарацыя «Элтэкс» і прыватнае прадпрыемства «Швейсэрвіс». Большасць супермаркетаў належыць гандлёвай сетцы АТБ, адной з найбуйнейшых ва Украіне.

Ва Украіне на працягу апошніх 25 гадоў людзі любілі паскардзіцца на дрэнную медыцыну і нізкія пенсіі. У чымсьці гэта справядліва, але давайце разбяромся ўважліва. Сапраўды, гарадскія і раённыя бальніцы забяспечаны лекамі толькі з разлікам на аказанне неадкладнай медыцынскай дапамогі. Рэальна больш за палову неабходных лекаў купляе ў аптэцы сам пацыент бальніцы. Але тут даўно працуе сістэма бальнічных кас. Напрыклад, членамі грамадскага аб'яднання «Пераяслаў-Хмяльніцкая бальнічная каса» на сённяшні дзень з'яўляюцца 1500 чалавек, якія кожны месяц уносяць сумы ад 50 да 200 грывень. За першае паўгоддзе 2019 года на рахунак аб'яднання паступіла каля 318 тысяч грывень, закуплена лекаў для 125 чалавек на 116,8 тысячы грывень. Акрамя гэтага, 50 членам грамадскага аб'яднання былі часткова кампенсаваны выдаткі на пратэзаванне зубоў.

Сярэдні памер пенсіі ў Пераяславе-Хмяльніцкім у першым паўгоддзі 2019 года склаў 2676 грывень, што крыху больш за 100 долараў. Канешне, на такія грошы не разгуляешся. Але цэны на хлебабулачныя і кандытарскія вырабы, садавіну і гародніну, адзенне і абутак на Кіеўшчыне прыкладна на 20–30 працэнтаў ніжэйшыя ў параўнанні з Міншчынай. Напрыклад, набыць звычайныя новыя джынсы тут можна за 450–480 грывень (каля 35 беларускіх рублёў). Для пенсіянераў існуе 50-працэнтная скідка на праезд у камунальных аўтобусах: кошт квітка складае 6 грывень для большасці людзей і 3 грыўні для пенсіянераў. Дарэчы, у Кіеве пенсіянеры ездзяць у камунальным грамадскім транспарце бясплатна. 270 мясцовых жыхароў атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю, сярэдні памер якога складае 3 тысячы 264 грыўні (трохі больш за 140 долараў). У параўнанні з беларускімі беспрацоўнымі ўкраінскія нават атрымліваюць трошкі больш.

Трагічныя падзеі на паўднёвым усходзе Украіны не маглі абмінуць і пераяслаўскую зямлю. На сённяшні дзень у горадзе афіцыйна зарэгістраваны 127 перасяленцаў з Данбаса, якія атрымліваюць невялікую фінансавую дапамогу ад дзяржавы.

Кошт нерухомасці на тутэйшым другасным рынку жылля прыкладна адпавядае аналагічным лічбам гарадоў накшталт Вілейкі ці Стоўбцаў: ад 14 тысяч да 22 тысяч долараў ЗША каштуюць двухпакаёвыя кватэры, ад 28 тысяч да 35 тысяч долараў просяць за трохпакаеўку. Частка перасяленцаў з Данбаса здолела прыдбаць тут жыллё. Важна разумець, што перасяленцы з акупаваных тэрыторый Данецкай і Луганскай абласцей з ліку чыноўнікаў, супрацоўнікаў праваахоўных органаў і прамысловых прадпрыемстваў, якія захавалі вернасць Украіне, у асноўным аселі ў буйных гарадах усходняй Украіны накшталт Марыупаля, Краматорска, Крывога Рога, Паўлаграда. Там яны здолелі атрымаць ад розных арганізацый-працадаўцаў службовае жыллё.

Нягледзячы на ўсе катаклізмы, жыццё ідзе сваім ходам. У Пераяславе-Хмяльніцкім рэгулярна праводзяцца шматлікія мастацкія пленэры, спартыўныя спаборніцтвы, святы мікрараёнаў. Усё такое падобнае і адначасова непадобнае на Беларусь, блізкае і далёкае. Тутэйшыя дэлегацыі ездзяць на Свята горада ў беларускі пабрацім Вілейку. Дэлегацыі з Вілейкі бываюць на розных святах на пераяслаўскай зямлі.

Застаецца толькі пажадаць мясцовым жыхарам захоўваць непаўторны каларыт класічнага ўкраінскага мястэчка ў сучасным вірлівым і непрадказальным жыцці.

**Сяргей ГРЫГОР'ЕЎ,**
**жыхар г.Дзяржынска Мінскай вобласці.**

***Фота аўтара.***

БОЛЬ

Пётр САДОЎСКІ,
Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у ФРГ (1992–1994 гг.), дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання

# АДЫШЛА Ў БЕЗБАР'ЕРНЫ СВЕТ…

*Я доўга разважаў: ці варта пісаць гэты матэрыял, і калі пісаць, то пад сваім імем ці выкарыстаць псеўданім? Справа ў тым, што размова пойдзе пра смерць блізкага мне чалавека, маёй жонкі, з якой я пражыў 57 гадоў. Смерць «маленькага чалавека» сама па сабе не можа быць прадметам публічнага сацыяльнага інтарэсу. Гэта інтымны боль і шчымлівыя ўспаміны пра нябожчыка на ўсё жыццё толькі для яго блізкіх. Асабліва калі ён доўга хварэў. Ці добра выносіць на людзі свае пакуты?*

*І ўсё ж я вырашыў, што варта напісаць: можа, гэта дапаможа іншым такім жа хворым і зменшыць гора іх блізкіх. Спадзяюся, што мае нататкі прачытаюць і будучыя дэпутаты беларускага парламента, якія нарэшце зразумеюць, што ёсць праблемы, за вырашэнне якіх трэба брацца неадкладна. Для дзяржавы мучэнні чалавека не павінны быць на другім плане.*



Мы, народжаныя за два-тры гады да пачатку саракавых мінулага стагоддзя, маем пра тую вайну, якую афіцыйна называем Вялікай Айчыннай, даволі цьмяныя ўспаміны, аднак як фізічныя істоты мы – дзеці вайны. У 1945-м мы, ужо дзеткі дашкольнага ўзросту, былі маларослыя, вузкагрудыя, з тонкімі шыйкамі, што вытыркалі з пацёртых каўняроў кашуль, нібы сцяблінкі засохлых кветак з гарлачыка. Калі нас пасля вайны «ставили на наружный вид» для вызначэння ўзросту пры адсутнасці дакументаў, шмат каго маладзілі на год, а то і на два. Бамбёжкі, страляніна, уцёкі, бадзянне па лясах ды пасляваенны голад зрабілі сваю справу. Мы хварэлі, як тады казалі, на чахотку, рахіт, прыпадкі, язву страўніка, запаленне касцявых скляпенняў… Савецкая ўлада, што б мы цяпер пра яе ні гаварылі, час ад часу заўважала нас: шматдзетным сем'ям давалі пасільную дапамогу ад міжнароднага Чырвонага крыжа, пасылалі на так званыя дзіцячыя аздараўленчыя пляцоўкі, у «лясныя школы». Тых, каму сёння за 80 і хто з 1940-х гадоў нясе ў сабе тыя балячкі, я выдзеліў бы ў асобную сацыяльную групу – дзеці вайны. Пра гэта павінна быць асобная гаворка.

Аднак мы выраслі рамантыкамі, кахалі шчыра, ствараючы сям'ю. Мы не пыталіся ў любага чалавека пра яго здароўе ці спадчынныя захворванні. Усё жыццё выжывалі і хварэлі разам, не кідалі адно аднаго ў цяжкія дні. Праз хваробы аазісаў шчасця было не так і шмат.

Народжаная да вайны ў Маскве, мая жонка ў чатырохгадовым узросце ў час эвакуацыі трапіла пад бамбёжку, апынулася пасля вайны ў Гомелі, куды яе бацька быў накіраваны пасля фронту на аднаўленне станкабудаўнічага завода. Пачаліся праблемы са здароўем: кашмары не давалі спаць, мучылі галаўныя болі, ужо школьніцай часта трацiла прытомнасць, раз-пораз аднімаліся ногі… І дарослае жыццё не было салодкім.

## Смерць падчас балю на пажарышчы

Апошнія 6–7 гадоў яна ўжо з цяжкасцю ўставала, мала сядзела, больш ляжала: адняліся ногі, падкасілі неўрапатычныя болі, невыносна балела скура, наступала кантрактура суставаў, месцамі з'яўляліся пролежні. Адыходзіла яна ў лепшы свет у спякотныя летнія дні, калі вакол гудзелі бясконцыя святочныя ўрачыстасці: еўрапейскія спартыўныя гульні, Дзень Незалежнасці 3 ліпеня з вайсковым парадам (у нас пад балконам грукаталі танкі), «Славянскі базар у Віцебску»… Ішла гучная медыякампанія пра бітву за ўраджай-2019. Потым была спартыўная «збербанкіяда», падчас якой Герман Грэф паабяцаў кіраўніку нашай дзяржавы пабудаваць у падарунак светлавы фантан у цэнтры Мінска. Было аб'яўлена пра планаваную рэканструкцыю помніка Перамогі. Потым праводзіўся адзіны алімпійскі дзень. Потым СМІ радасна паведамлялі, што кітайцы паабяцалі нам пабудаваць сучасны футбольны стадыён і плавальны басейн сусветнага ўзроўню. Потым была ўрачыстасць усясветнага маштабу – беларускі палітыкум на чале з кіраўніком дзяржавы сабраў у Мінску, які прэтэндуе стаць Хельсінкі-2, канферэнцыю па кібербяспецы супраць тэрарызму. Потым пачалося святочнае чаканне і падрыхтоўка да «матча стагоддзя» ў Мінску – лёгкаатлетычных спаборніцтваў Еўропа–ЗША… Грымела тысячагоддзе Брэста. Медыі штодня нагадвалі пра хуткае свята горада Мінска. Агучваліся дзяржаўныя мроі пра Мінск як сталіцу будучых чэмпіянатаў свету і нават Алімпійскіх гульняў…

Апошнія сведчанні дзяржаўнай велічы я слухаў ужо адзін, радуючыся, што мая спадарожніца жыцця адышла ў безбар'ерны свет, дзе не будзе ні лесвічных прыступак, ні бетонных бардзюраў, ні праблем з выклікам дактароў і аплатай інваліднага таксі па дарозе дадому пры выпісцы з бальніцы, ні пошукаў дарагіх імпартных лекаў…

Чаму я гавару пра баль на пажарышчы? Сёння ўжо з дзяржаўных крыніц вядома, што кожны жыхар Беларусі вінны замежным крэдыторам больш за тысячу долараў. Называюцца лічбы і ў разы большыя. Я не чытаў ні парламенцкіх справаздач, ні дакладных дзяржаўных статыстычных дадзеных пра тое, коштам якіх затрат ўсе гэтыя дзяржаўныя публічныя юбілеі ды святы ладзяцца. Дзе дзяржава зарабляе, а дзе траціць? Калі нешта фінансуецца спонсарамі, то ці ўсё гэта першараднае? Спонсараў жа можна заахвоціць ствараць фонды, напрыклад, для падвышэння аплаты працы дактароў у дзяржаўных клініках і бальніцах, распрацоўкі праектаў недарагіх серыйных пад'ёмнікаў у пад'ездах і ванных пакоях для інвалідаў. А колькі каштуюць шматлікія рэзідэнцыі ды гасцявыя дамкі, раскіданыя па ўсёй краіне? Усё гэта пакрыта тайнай, як тая арэнда лагойскіх лясных абшараў на 99 гадоў шэйхамі Арабскіх Эміратаў. Хто пасрэднікі ўсяго гэтага?

Дзяржаўныя СМІ тыражуюць вымучаныя інтэрв'ю з дробнымі міжнароднымі клеркамі, якіх паслухмяныя дзяржаўныя журналісты падштурхоўваюць рытарычнымі пытаннямі да кампліментаў на адрас беларускага кіраўніцтва. Нават у «братніх» расійскіх СМІ, не гаворачы ўжо пра заходнія, нашы «эпахальныя» спартыўныя высілкі ды «маштабныя міжнародныя ініцыятывы» знаходзяць вельмі сціплы розгалас.

## Ліставанне з дзяржавай

Акрамя непазбежных выдаткаў на лекі ў хворых з дэфектамі апорна-рухальнага апарату, як правіла, ёсць праблемы з сэрцам, узроўнем глюкозы ў крыві, крывяным ціскам, кровазваротам, яны пакутуюць на неўрапатычныя болі і да т.п. Жыццё ўскладняецца яшчэ і немагчымасцю выйсці з кватэрнай ізаляцыі, падыхаць свежым паветрам, з'ездзіць на працэдуры ў паліклініку ці да прыватнага доктара. Цяжка не страціць сацыяльную арыентацыю, неператварыцца ў чалавекападобную расліну.

На працягу 14 месяцаў я вёў перапіску з ЖКГ і адміністрацыяй Цэнтральнага раёна Мінска пра магчымасць усталявання пандуса ці пад'ёмніка ў пад'ездзе. Падчас выязнога прыёму ў кіраўніка адміністрацыі раёна я нават прапаноўваў аплаціць уласнымі сродкамі частку выдаткаў. Даю храналогію падзей.

**5 мая 2018 года.** Мой зварот у Тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва (ТЦ САН) Цэнтральнага р-на г.Мінска.

**12 чэрвеня** Зварот ТЦ САН Цэнтральнага р-на г.Мінска ў ЖКГ Цэнтральнага раёна.

**21 чэрвеня.** Адказ ЖКГ Цэнтральнага раёна на адрас ТЦ САН і на адрас інваліда: *«Включение в Городскую программу … работ по устройству пандуса и поручня внутри подъезда… для инвалида 1-й группы… не представляется возможным в связи с большим углом уклона ступеней, что противоречит требованиям СТБ2030-2010. …В данной ситуации могут быть выполнены работы по устройству подъемной платформы внутри подъезда. …**При формировании плана мероприятий… на 2019 г. просьба инвалида 1-й группы**… **будет учтена**»*. Подпіс: и.о. замдиректора О.С.Лапша.

На гэты ліст я даслаў электронны зварот з просьбай удакладніць тэрміны прыняцця афіцыйнага рашэння ЖКГ і абследавання тэхнічных умоў у пад'ездзе для фармулёўкі тэхзадання падрадчыку.

**11 жніўня 2018 года.** Сустрэча з кіраўніком адміністрацыі Цэнтральнага р-на г.Мінска Пятрушам Дз.В. на выязным асабістым прыёме грамадзян у ЖУ №4 у прысутнасці начальніка ЖКГ сп.Собаля.

**13 жніўня 2018 года.** Адказ кіраўніка спраў адміністрацыі Цэнтральнага р-на г.Мінска В.А.Перадні: ***«…Работы по устройству под'ёмной платформы в указанном под'езде учтены».***

**25 жніўня 2018 года.** Прамая тэлефонная лінія з кіраўніком спраў адміністрацыі Цэнтральнага р-на. Я зноў прашу ўдакладніць тэрміны работ.

**27 жніўня 2018 года.** Пісьмовы адказ намесніка кіраўніка адміністрацыі Канаплёва В.Н. без указання тэрмінаў. З фармулёўкай: *«…В настоящее время… формируется потребность в финансировании и план мероприятий Государственной программы по созданию безбарьерной среды жизнедеятельности физически ослабленных лиц на 2019 г., в котором **работы по устройству подъемной платформы учтены**».*

**29 жніўня 2018 года.** Кіраўнік адміністрацыі Пятруша Дз.В. дасылае пісьмовы адказ на маё імя пасля «выездного приема граждан главой администрации Центрального р-на г.Минска», у якім без указання тэрмінаў пацвярждаецца, што ***«работы по устройству подъемной платформы в указанном подъезде учтены».***

**Верасень 2018 года.** У сувязі з пагаршэннем стану ўласнага здароўя (адкрылася венознае кровацячэнне ў ніжніх канечнасцях) і кароткачасовай шпіталізацыяй звяртаюся ў адміністрацыю Цэнтральнага раёна з настойлівай просьбай паведаміць нарэшце дакладныя тэрміны ўсталявання пад'ёмніка.

**5 сакавіка 2019 года.** Ліст з адміністрацыі Цэнтральнага раёна г.Мінска пра тэрміны (на беларускай мове!):

***«У цяперашні час падрыхтавана рашэнне адміністрацыі Цэнтральнага р-на г.Мінска «Аб дазволе правядзення праектна-пошукавых і выканання і будаўніча-мантажных прац», у якім улічаны аб'ект «Прылада пад'ёмнай платформы ўнутры пад'езда (даецца адрас)...»*** Далей у лісце тлумачылася (цытую з захаваннем стылістыкі арыгінала): *«Ва ўмовах, якія склаліся на практыцы, будаўнічыя работы ў аналагічных выпадках прыпадаюць на IV квартал. Дадзеная практыка звязана з неабходнасцю працэдуры закупкі па выбары падраднай арганізацыі на выкананне праектна-каштарыснай дакументацыі па аб'екце, узгадненне яе з усімі зацікаўленымі ведамствамі, праходжання дзяржаўнай экспертызы. Пасля атрымання праектнай дакументацыі праводзіцца працэдура закупкі па выбары падраднай арганізацыі на выкананне будаўніча-мантажных работ… Тым не менш адміністрацыяй Цэнтральнага раёна г.Мінска будуць прымацца ўсе залежныя ад яе структурных падраздзяленняў меры для паскарэння рашэння дадзенага пытання. Просім паставіцца з цярпеннем і разуменнем да існуючага парадку па стварэнні безбар'ернага асяроддзя…»* І напамінак у апошнім абзацы, што я магу абскардзіць адказ ва ўстаноўленым парадку.

Ці то беларуская мова, ці то мая настойлівасць, як бачна, вымусілі канкрэтызаваць тэрміны ды трошкі змякчылі тон адказу. Аднак уявіце сабе, колькі этапаў яшчэ павінна быць пройдзена! Пакуль што прынята толькі *рашэнне аб дазволе правядзення*! Тэндары, выбар арганізацыі па распрацоўцы каштарыснай дакументацыі, выбар падрадчыка, закупка матэрыялу, тэхнічная экспертыза. Усё яшчэ наперадзе! А колькі тых зацікаўленых арганізацый, з якімі ўсё гэта трэба ўзгадніць!..

## Трэба толькі захацець

Ці ж не можна прыдумаць нейкую стандартную тыпалогію? Вось ездзіць кіраўнік дзяржавы на жывёлагадоўчыя комплексы, на фабрыку музычных інструментаў, на льнокамбінат, марыць наладзіць айчынныя майстэрні, дзе будуць вырабляць пластыкавыя лыжы. Няхай бы высокі чыноўнік з профільнага міністэрства з'ездзіў адзін раз у пратэзна-артапедычны цэнтр, што на вуліцы Адоеўскага, 10 у Мінску, дзе вырабляюцца і рамантуюцца вазкі для інвалідаў ды праектуецца іншае featuresнае начынне для асоб з паслабленым здароўем. Можна даручыць аддзелу галоўнага канструктара (ёсць там такое падраздзяленне) распрацаваць гатовы модуль пад'ёмніка для пэўнага тыпу дома. У нашым выпадку – высокі першы паверх дома з сямю прыступкамі і ліфтам, з такімі і такімі габарытамі пляцоўкі справа і злева, з такой і такой шырынёй лесвіцы. Падобных дамоў пабудовы пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў Мінску нямала. Філіялы артапедычнага цэнтра ёсць у кожным абласным цэнтры. Там свае тыпы дамоў. Пераменнай велічынёй застаецца шырыня вазка і прыблізная вагавая нагрузка на платформу. Матэрыялы могуць быць тыпавыя на кожны элемент пад'ёмніка. Фінансаванне трэба рабіць цэнтралізаванае, а не раскладаць па раёнах. Тут жа выпадковыя велічыні: прырода не размяркоўвае інвалідаў па раёнах. Тады спросціцца працэдура: дзяржаўны падрадчык, дзяржаўная закупка. Выпадзе «раённае звяно»: атрымаў чалавек 1-ю групу інваліднасці паводле дэфектаў апорна-рухальнага апарату – адразу ідзе заяўка да дзяржаўнага падрадчыка-будаўніка на пэўны тып пад'ёмніка з некаторымі ўдакладненнямі.

Пад'ёмнік з платформай – нятанная рэч. Чым гадамі чакаць і не дачакацца, інваліды былі б рады атрымаць у арэнду ці за ўмераную плату просценькі ланцугова-шнэкавы апарат або прыстасаванне з дзвюма злучанымі тэлескапічнымі шынамі, па якіх вазок будзе рухацца пры дапамозе механічнага паліспаста. Тут толькі патрэбны дазвол домакіраўніцтва на ўсталяванне ў сцяне на першым высокім паверху надзейнага кручкападобнага зачэпа. Пасля з'езду і пад'ёму шыны прыбіраюцца. Усё гэта даўно вядома. У інтэрнэце ёсць розныя варыянты ад прыватных фірм. Наколькі я ведаю, нямецкія спецыялісты з Дортмунда прапаноўвалі беларускаму боку на гэты конт свае рэкамендацыі шмат гадоў таму.

## Пакуты з інвалідным вазком айчыннай вытворчасці

Інвалідам 1-й групы з парушэннем функцый апорна-рухальнага апарата пакаёвыя вазкі даюцца бясплатна. Праз недахоп сродкаў яны ж выкарыстоўваюцца і на вуліцы. Кожны карыстальнік інваліднага вазка можа даць парады нашым канструктарам, якія скапіравалі апарат з кітайскага (я гавару пра той, што дастаўся нам), як яго ўдасканаліць. Трэба абавязкова падоўжыць ручкі сантыметраў на 8–10. Ва ўмовах нашых гарадоў, дзе на кожным кроку прыходзіцца пераадольваць бардзюры, патрэбны большы рычаг для пад'ёму пярэдняй часткі з маленькімі калёсікамі, якія круцяцца вакол восяў на 360 градусаў. Там, дзе ў пад'ездах няма ні пандусаў, ні пад'ёмнікаў, інвалідам трэба даваць вазкі з графітавымі шынамі для вялікіх колаў, бо з гумовых выціскаецца паветра пасля спуску па прыступках без апоры на маленькія пярэднія. Дарэчы: маленькія можна «арыштаваць» з дапамогай металічнага ці пластмасавага вугольнічка, каб яны круціліся толькі паралельна вялікім. Тады можна будзе пры спусках абапірацца і на іх, маючы наперадзе вялікія графітавыя колы. Да кожнага вазка павінны быць прадугледжаны тры адпаведныя ключы для падцяжкі гаек перад выездам (іх не даюць), што прадугледжана інструкцыяй. На корпусе спінкі вазка для ключоў і насоса павінны быць прадугледжаны спецыяльныя кішэні. Насосы даюць кітайскія, закупленыя ў Расіі. Яны яўна кантрафактныя, бо не ганяюць паветра нават пры халастым рэжыме. Нам прывезлі дамоў (!) спраўны насос пасля маіх некалькіх званкоў на камбінат з просьбай паведаміць, якая фірма праводзіць аптовыя закупкі насосаў у расійскага пасрэдніка. Я паабяцаў паскардзіцца ў наш Следчы камітэт.

Вазкі даюць толькі пакаёвыя. Тыя, што для вуліцы, вельмі дарагія. Выціранне колаў пасля бруднай вуліцы – для нас ужо дробязь. У пакаёвым вазку паміж заднімі коламі прадугледжаны два супрацьперакульвальныя кранштэйны, калі інвалід рухаецца заднім ходам. Пры кожным выездзе на вуліцу загнутыя наканечнікі прыходзіцца знімаць, бо інакш той, хто коціць вазок, будзе біцца аб іх наскамі чаравікаў і вымушаны будзе ісці скурчыўшыся. Пра гэта, дарэчы, у інструкцыі не ўзгадваецца, бо вазок пакаёвы. Прывязны пояс з штучнай тканіны мацуецца па краях металічнай шпількай з невялікай галоўкай. Канструкцыя вельмі ненадзейная, бо пры нагрузках тканіна вакол галоўкі разбураецца. Шырыня дзвярэй у ванных пакоях і туалетах у нашых тыпавых дамах мінулых гадоў складае не больш за 60 сантыметраў. Наш вазок меў невялікія знешнія габарыты, амаль як дзіцячы, – 57 сантыметраў. А што ж рабіць хвораму з вазком большых памераў? Пра пад'ёмнікі для спуску хворых у ванным пакоі пад душ я ўжо маўчу. Тут трэба шмат думаць, каб сканструяваць адносна недарагое прыстасаванне, якое па кішэні нашай дзяржаве. Людзі прыдумляюць самі паваротную пляцоўку з крэслам (спінка нахілена градусаў на 120), што мацуецца на папярочнай дошцы над ваннай. Гэта канструкцыя нагадвае рухомую платформачку пад тэлевізар на журнальным століку савецкага часу.

## «Хуткая дапамога» і медыцынская перавозка

Не дачакалася мая жонка пад'ёмніка. Памерла. За дзень да смерці давялося перажыць непрыемныя прыгоды. Ноччу падняўся артэрыяльны ціск і тэмпература. Страціла прытомнасць, спаўзла з ложка. Адзін падняць не магу: мне дзявяты дзясятак ды зламаны абедзве рукі. Выклікаю «хуткую дапамогу». Прыязджаюць дзве дзяўчынкі – доктар і фельчар. Пацыентка не тоўстая. Кілаграмаў 55–56 важыць. Старэйшая кажа: у мяне хворы хрыбет, нацягалася бамжоў у рэанімацыі, баюся, што будзе кепска. Кажу: «Давайце паклічам вадзіцеля, каб дапамог!» Кажуць: вадзіцель не пойдзе, яму за гэта не плацяць. Выклікалі брыгаду моцных дзецюкоў. Вынеслі ў ношах на гарызантальную каталку. Па дарозе ў бальніцу рабілі ўколы, ставілі кропельніцу. У 3-й бальніцы зрабілі рэнтген, аналіз крыві. Быў высокі ціск, тэмпература пад сорак. Сітуацыйны дыягназ – застойная пнеўманія. Апрытомнела хворая. Кажуць: вязіце дадому, выклікайце тэрмінова ўчастковага тэрапеўта. Як везці? «Хуткая» назад не вязе. У звычайнае таксі хворую з кантрактурай, якая не стаіць на нагах, не пасадзіш. Кажуць: выклікайце медыцынскую перавозку. Перавозка з крэслам або з насілкамі і пад'ёмам да ложка ў кватэры каштуе ад 35 да 50 рублёў. Знячэўку я ўзяў з сабой толькі пашпарты. Грошай з сабой аказалася ўсяго 20 рублёў. Кажуць: званіце знаёмым, бо ноччу медперавозка патрабуе грошы наперад. А было палова на трэцюю. Кажу сястры і доктару ў калідоры прыёмнага пакоя: «Вы паглядзіце хворую, каб не звалілася з каталкі, а я пабягу да паставога афіцэра каля Адміністрацыі прэзідэнта прасіць пазычыць рублёў 20 пад залог пашпарта…» Глядзяць, як на блазна: «Ладна, давайце давязём да пад'езда, але падымаць будзеце самі…» Званю па 101 (надзвычайныя сітуацыі). Прашу дапамагчы. Зразумелі бяду, пытаюцца пра адрас. Кажуць: пад'язджаючы да дому, хвілін за пяць набярыце па мабільным 101. Там недалёка ёсць машына службы надзвычайных сітуацый, дапамогуць падняць. Стомленыя, замурзаныя хлопцы ўжо чакалі каля дома. Былі пасля пажару. У просценькім рабочым крэсле паднялі на паверх. Ад усялякай падзякі адмовіліся.

Раніцай прышоў участковы доктар. Прызначыў лекі. Днём стан нібы стабілізаваўся. Пад вечар ізноў павысілася тэмпература і вырас артэрыяльны ціск. Пасля прыёму лекаў (аўгменцін) хворая супакоілася, заснула. Сцішылася. Пад раніцу памерла. Можа, трэба было зноў везці на «хуткай» у стацыянар, рабіць уколы, ставіць кропельніцу? Можа, яшчэ пажыла б? У пасмяротным дыягназе запаленне лёгкіх не ўзгадваецца. Агульная фармулёўка для смерці старога нямоглага чалавека: хранічная недастатковасць кровазвароту, атэрасклератычныя парушэнні на фоне артэрыяльнай гіпертэнзіі. Што тут ужо было разбірацца?.. Можа, гэта і ёсць характарыстыка запалення лёгкіх?

## Што могуць дактары?

Да смерці тыдні за два мы выклікáлі на дом праз дзяжурнага тэрапеўта (у нас не было свайго пастаяннага некалькі месяцаў) «спецыялістаў» – дэрматолага, хірурга (ці хірургічную сястру) і неўролага. Цікава, што тэрапеўта як бы не лічаць спецыялістам. Ён нібы разводны начальнік начной варты ў войску. Апошнія паўтара года ў нас пабывала сем дэрматолагаў. Кожны раз – новы, малады. Давалі супярэчлівыя рэкамендацыі. На гэты раз не дачакаліся ніякага візіту. Неўролага таксама не дачакаліся. У паліклініцы тры гады не было неўролага. Доктар-жанчына была ў дэкрэце. Потым выйшла на працу, але неўзабаве звольнілася. Быццам бы з'явіўся новы неўролаг. Хірурга абяцалі прыслаць. Нават назвалі дзень і час. Мы

чакалі. Але доктар так і не прыйшоў.

Не павёз я хаваць жонку на Заходнія могілкі пад Мінскам, гэты мурашнік з нябожчыкаў, што прырастае квадратна-гнездавым метадам штодня на дзясяткі «месцаў». Пахаваў на сельскіх могілках каля вёскі Студзёнкі, што недалёка ад пасёлка Гарадзейскага цукровага завода. Там ляжаць мая старэйшая сястра з мужам, у тым пасёлку жыў мой брат-чарнобылец, ужо нябожчык, там памерла мая маці, якую пахавалі на малой радзіме недалёка ад вядомай вёскі Забараўна Вушацкага раёна, дзе ў брацкай партызанскай магіле пэўны час спачываў мой бацька. Паехала да мужа. Цяпер і я ў хуткім часе паеду да сваёй жонкі. Там мне ўжо адгарадзілі месца. Калі хавалі жонку, праз дарогу, метраў за 20, каласілася жыта. Удалечыні віднеўся «край зубчаты бору». На саракавы дзень пасля пахавання на месцы жыта ляжалі круглыя цюкі спрасаванай саломы… Пазнака вечнага кругабегу часу.

Нешта неверагоднае пачалося на трэці (ці на чацвёрты?) дзень пасля пахавання, калі я ўжо меў на руках пасведчанне аб смерці, якое атрымаў у аддзеле ЗАГС галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкама, пакінуўшы там даведку аб смерці і жончын пашпарт. Гадзін у 12 раздаецца тэлефонны званок, бадзёры мужчынскі голас, як у нас заведзена, не называючы сябе, пытальна-сцвярждальным тонам канстатуе: «Гэта з паліклінікі. Вы выклікалі на дом неўролага…» Адказваю, што ў доктары ўжо няма патрэбы, хворая памерла. У адказ кароткі радасны голас: «О, дык тады і візіту не трэба!..» Слухаўка – шлёп!

У той жа дзень яшчэ званок ад хірурга, што прыйдзе. Зноў кажу, што ўжо няма патрэбы. На гэты раз слухаўку паклалі моўчкі, не вымавіўшы ні слова.

Прыблізна праз гадзіну пасля першых двух тэлефонных званкоў раздаецца званок у дзверы. Прыйшла дэрматолаг – зноў новая. Адчыніў я дзверы. Не запускаючы ў кватэру, паведаміў пра смерць пацыенткі. Зноў – ні слова выбачэння, ні спачування. Моўчкі павярнулася, пабегла ўніз па лесвіцы. Вось, думаю, пэўна, далі ўказанне, каб нанеслі візіт ды паставілі птушачку ў журнале выклікаў, а то пакрыўджаныя сваякі памерлай яшчэ будуць скаргі пісаць. Лепш позна, чым ніколі…

## Развітальны ліст ад дзяржавы

Для мяне пабеглі дні з новым адлікам часу… Праз некалькі дзён пасля пахавання нябожчыцы мне ўзгадалася, што гэта ж нехта дзесьці ў калідорах адміністрацыі Цэнтральнага раёна выконвае пастанову аб *«дазволе на ўсталяванне пад'ёмнай платформы»*, марнуе дзяржаўныя сродкі: праводзіць тэндары, шукае падрадчыкаў на фармулёўку тэхзадання і да т.п. Тэлефаную ў прыёмную адміністрацыі. Сакратарка, на жаль, не разумее беларускай мовы: наша слова «адказ» атаясамлівае з расійскім «отказ»: «Мы вам ни в чем не отказывали!» Кладу слухаўку. Пішу на адрас адміністрацыі Цэнтральнага раёна электронны ліст з падзякай за клопат (прыслалі аж сем лістоў) і прашу прыпыніць працэс стварэння безбар'ернага асяродку па адрасе такім і такім, бо інвалід 1-й групы такая і такая ўжо з месяц таму адышла ў лепшы, безбар'ерны, свет. Адказ з адміністрацыі прыйшоў хутка і на беларускай мове:

*«Паважаны Пётр Вікенцьевіч! На Вашы электронныя звароты ў адміністрацыю Цэнтральнага раёна г.Мінска ў дадатак да раней накіраванай інфармацыі паведамляем: на падставе прадстаўленай Вамі інфармацыі ў электронным звароце ад 21 чэрвеня 2019 г. распрацоўка праектна-каштарыснай дакументацыі па аб'екце «Прылада пад'ёмнай платформы ўнутры пад'езда» (даецца адрас) спынена. Адміністрацыя Цэнтральнага раёна г.Мінска выказвае спачуванні з нагоды Вашай страты. У адпаведнасці з артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь ад 18.07.2011 «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» дадзены адказ Вы маеце права абскардзіць у Мінгарвыканкам. Намеснік кіраўніка адміністрацыі В.А.Перадня».*

Вось і канец актуальнай гісторыі пра смерць інваліда 1-й групы, вазочніка з паўтарагадовым стажам.

Калі рэдакцыя «Народнай Волі» дазволіць, я мог бы расказаць яшчэ шмат карыснага са сваіх шматгадовых назіранняў, якімі маглі б пакарыстацца і хворыя, і дактары, і аўтары тэкстаў для даведак ад устаноў аховы здароўя, і канструктары вазкоў, і супрацоўнікі аптэк, і банкі, што бяруць 15% камісіі з інвалідаў, якія па льготнай цане купляюць такое-сякое начынне ў цэнтрах сацыяльнага абслугоўвання.

Хацелася б яшчэ выказаць на старонках газеты падзяку дактарам, асабліва стаматолагам і псіхатэрапеўтам, супрацоўнікам цэнтра сацыяльнай падтрымкі, вадзіцелям інваліднага аўтобуса, аптэкарам. Думаю, што можна будзе назваць і прозвішчы. Перш, канешне, трэба добра падумаць: ці не пашкодзіць ім публічная падзяка? Бо часам, каб дапамагчы хвораму, яны вымушаны былі парушаць інструкцыі. У нас вельмі спецыфічная краіна.

*(Працяг будзе.)*

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ



# Без боли!

*Как долго можно принимать обезболивающие препараты без вреда для здоровья? Почему при боли под коленом и в стопе надо обследовать тазобедренный сустав и пояснично-крестцовый отдел позвоночника? Как ударно-волновая терапия помогает справиться с болью? В каких случаях несколько часов в день лучше сидеть не на стуле, а на большом фитболе?*

*В «Народной Воле» прошла «прямая линия» с неврологом, заведующим неврологическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ» **Андреем ВЫСОТСКИМ.***

## Только под наблюдением врача

**– Добрый день! Меня зовут Людмила. С удовольствием прочитала в «Народной Воле» анонс «прямой линии» о боли. Андрей Дмитриевич, неужели нашли панацею от боли? Я так от нее страдаю: ни спать, ни ходить – жить не могу! Никакие обезболивающие мне не помогают.**

– Смотря какая причина боли. При онкологических заболеваниях действительно сложно найти лечение от боли, обычные обезболивающие малоэффективны в этом случае.

**– У меня болят суставы, протрузии позвоночника, невыносимые боли в ногах. Пью нестероидные препараты, снотворное**.

– Надо обследоваться, исключить остеопороз, при котором тоже, как вы говорите, может болеть все.

Основным методом лечения боли является медикаментозная терапия. Есть специальные группы лекарственных препаратов, которые назначаются длительно и помогают уменьшить боль. Возможно, вам могут помочь прегабалины. Подобрать нужный именно вам препарат возможно только под наблюдением врача.



## Не терпеть!

**– Андрей Дмитриевич, рассудите наш с мамой спор. Мне 35 лет, часто после работы (сидячей, я бухгалтер) болит голова, словно она сдавлена обручем. Я долго не терплю, пью обезболивающий препарат. Мама считает, что я себя травлю лекарствами, что головную боль можно и потерпеть: полежать, и она сама пройдет.**

– Необходимо знать причину головной боли, из-за чего она появляется.

Чаще всего, в 40 процентах случаев, это головная боль напряжения. Это не настолько безобидное явление, чтобы пускать ситуацию на самотек, в основе его спазм мышц скальпа, спазм перикраниальных мышц. И если терпеть, этот спазм постепенно будет закрепляться. Если такая боль повторяется раз-два, достаточно обезболивающей таблетки. Но если головные боли возникают у вас регулярно, нужно обратиться к врачу и пройти обследование.

**– Но боль терпеть нельзя?**

– Да, появилась острая боль – сразу же надо выяснить ее причину и от нее избавиться. Можно принять самый простой препарат – парацетамол, анальгин, нестероидный препарат. Но это правильно только при периодических болях с обострениями. Если же болевой синдром возник впервые, надо сначала исключить экстренную патологию (хирургическую, урологическую, гинекологическую и др.), установить диагноз.

Если мы начинаем терпеть боль, она постепенно может перейти в хроническую. Зачастую в спине кольнуло, и человек ходит месяц, два, три, ждет, что боль пройдет. А за это время изменяются структуры, которые воспринимают боль, которые проводят боль, изменяются структуры головного мозга, которые анализируют боль. Образовывается такой порочный круг: боль – мышечный спазм – боль, только еще более сильная. А если на раннем этапе провести противовоспалительное лечение, пропить, например, при вертеброгенной патологии миорелаксанты, боль уйдет, и человек о ней забудет.

**– А каким должен быть курс такого лечения? Спину у меня тоже прихватывает…**

– Это зависит от интенсивности болевого синдрома. Обычно курс нестероидными препаратами составляет 3–5 дней. Но если боль не уходит, надо идти к врачу и подбирать лечение в индивидуальном порядке, потому что причины болей в спине могут быть самые разные.

## Болит под коленом, а причина в тазобедренном суставе или пояснично-крестцовом отделе позвоночника

**– Здравствуйте! Звоню из Буда-Кошелево. Хотелось бы получить консультацию невролога вот по какому поводу. По жизни страдаю ревматизмом, сейчас ставят диагноз «гонартроз», а последние две недели испытываю сильную боль в левой стопе, в области косточки, которая как бы поднимается выше в подъем, затем идет по голени и заканчивается в бедре. И пальцы на ноге немеют.**

– Все пальцы?

**– Все, и стопа.**

– Боли в ягодичной области или в области тазобедренного сустава тоже есть?

**– Есть.**

– Гонартроз – это артроз коленного сустава, вам надо еще обратить внимание на тазобедренный сустав. Возможно, боль вызвана проблемами в тазобедренном суставе. Иногда при артрозе тазобедренного сустава болят ноги и в коленном суставе, и в голени. Возле тазобедренного сустава есть так называемая грушевидная мышца, под которой проходит седалищный нерв. И иногда эта мышца может напрягаться, воспаляться и зажимать седалищный нерв. Боли, которые вы описываете, характерны и при таких состояниях. Также нельзя исключать патологию пояснично-крестцового отдела позвоночника.

Вам надо дообследоваться. Сделайте рентген тазобедренных суставов и рентген пояснично-крестцового отдела позвоночника и обратитесь к неврологу по месту жительства.

## Сидя на мяче

**– Добрый день! Звоню на «прямую линию» из Бреста. Вопрос у меня один. Я фрилансер, практически постоянно сижу дома за компьютером. Часто болит спина. Слышал, что в таких случаях полезно сидеть не на стуле, а на большом фитболе. Скажите, пожалуйста, в этом есть смысл?**

– В вашей ситуации, думаю, есть.

Фитбол учит держать осанку. Сидя на фитболе, необходимо постоянно удерживать равновесие, и спина будет ровная. Исчезнет то статическое напряжение, которое возникает при работе за компьютером. Когда ось позвоночника прямая – одна нагрузка, как только шея согнута – появляется так называемый рычаг шеи, и сразу в разы возрастает напряжение.

Если вам удобно работать на фитболе, работайте. Но сидеть целый день на мяче не стоит. Достаточно час-два в день, это уже позволит сформировать правильный стереотип, при котором ровная осанка становится привычкой и поддерживается неосознанно. Человек привыкает так сидеть, и ему все равно – кресло это, стул или фитбол.

## Ударить волной

**– Андрей Дмитриевич, скажите, пожалуйста, как помочь жене. У нее сколиоз позвоночника, и боли невыносимые. Может, подскажете, что с этим делать?**

– По телефону на ваш вопрос не ответишь. Стадии сколиоза есть разные. Пациента надо видеть.

**– Она лечилась, конечно же, и снимки есть, и МРТ. Но все пожимают плечами: мол, ничего не можем, у нее вроде нервы зажаты этим искривлением…**

– Ситуация непростая. Скорее всего, у вашей жены мышечный спазм, который невозможно ничем снять. Но сейчас есть методика лечения хронической боли – ударно-волновая терапия. Сегодня это один из самых эффективных методов лечения, при котором ударная акустическая волна воздействует на ткани и клетки организма. В области воздействия улучшается кровообращение, обмен веществ. Эта процедура позволяет «разбить» спазмированные мышцы, они расслабляются и освобождают нервные корешки, которые, возможно, зажаты. Процедура выполняется раз в 7–10 дней, всего семь процедур. Обычно пациенты могут почувствовать облегчение практически сразу после первого сеанса.

**– Но у нее эти боли такие давние, что она уже практически и не ходит. Пробовали скандинавские палки, не может и с ними ходить.**

– При длительном болевом синдроме можно сделать одну-две процедуру и посмотреть, есть ли эффект. Если боли уменьшились хотя бы временно, то есть смысл продолжать дальше. Крайне редко при таком лечении нет эффекта.

Кроме того, после ударно-волновой терапии необходимы занятия лечебной физкультурой, нужно выполнять специальные упражнения, чтобы мышцы снова не спазмировались.

**– Никогда не слышал о таком методе лечения боли. Как давно врачи его используют?**

– Достаточно, чтобы говорить об эффективности этой процедуры. Боль – самое неприятное состояние, которое может довести человека до депрессивного состояния. Нарушается сон, работоспособность, ухудшается настроение. И это страдание не только для самого человека, но и для его родных и близких. Это очень серьезная проблема, сегодня 20 процентов взрослого населения в мире страдает от хронической боли, поэтому медицина не стоит на месте. Технологии развиваются и предлагают людям новые методы и способы лечения.

**– А есть противопоказания для этой процедуры?**

– Есть, но их меньше, чем при остальных распространенных физиотерапевтических воздействиях. Ударно-волновая терапия не назначается пациентам с онкологическим заболеванием, с тяжелыми заболеваниями сердечно-сосудистой системы и с заболеваниями крови. Также среди противопоказаний инфекционная патология.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

НУ І НУ!

# «Пяць дзён практычна нічога не ела…»

*53-гадовую Раісу Садаву з вёскі Белая Дуброва Касцюковіцкага раёна каля тыдня шукалі супрацоўнікі РАУС, ратавальнікі і работнікі лясгаса.*

Як паведамляе УУС Магілёўскага аблвыканкама, жанчына дапамагала аднавяскоўцам у нарыхтоўцы сена. Вечарам па дарозе дадому яна ў нейкі момант знікла з вачэй. Знаёмыя паспрабавалі яе знайсці, аднак самастойныя пошукі плёну не далі, і яны паведамілі ў міліцыю.

Зніклую знайшлі толькі праз пяць дзён у лясным масіве Яна была прытомная, але без сіл. Лекары, адзначыўшы, што з жанчынай усё ў парадку, адпусцілі яе дадому.

*"Усе ў аграгарадку былі ў шокавым стане, калі даведаліся, што Раіса знікла,* – распавялі "Народнай Волі" яе аднавяскоўцы. *– Ужо не верылі ў тое, што знойдуць, але ж цуды здараюцца. Як быццам леснікі знайшлі кіламетраў за 20–30 ад нашага мястэчка".*

Раіса Садава затым расказвала, што ішла ўвесь час па дарозе, і ў лес не заходзіла:

*"Ноччу ляжала, а днём ішла. Пяць дзён практычна нічога не ела, толькі піла ваду там, дзе яе знаходзіла. Праблема заключалася яшчэ вось у чым: у тым баку ўсе вёскі выселены, не было каму і дапамагчы. Наўкол лес ды хмызнякі…"*

Раіса – інвалід з дзяцінства, жыве толькі з братам. Нідзе не працуе, атрымлівае дапамогу па інваліднасці.

*"Медыкі аказалі ёй неабходную дапамогу, прапісалі нейкія таблеткі піць,* – дадаюць аднавяскоўцы. *– Дзякуй Богу, што ўсё так абышлося…"*

**Віктар ШПАК.**

СІТУАЦЫЯ

# Аляксандр КАБАНАЎ: «Расследаванне па маёй справе аднавілі»

*Брэсцкі блогер распавёў "Народнай Волі" пра незвычайную сітуацыю, у якую трапіў.*

Нагадаем, што **Аляксандр Кабанаў** – вядомы брэсцкі блогер, які асвятляў пратэсты ў абласным цэнтры падчас маршаў "дармаедаў" і акцый супраць будаўніцтва акумулятарнага завода.

– Каля трох гадоў таму я быў старшынёй жыллёвага таварыства, – кажа Аляксандр Кабанаў. – У нас была дамоўленасць з сябрамі таварыства, што я буду атрымліваць невялікія грошы, якія кампенсуюць мне выдаткі за працу – 2 рублі з кватэры ў месяц.

Пагадзіўся на такіх умовах працаваць, але праз два гады дзеючы супрацоўнік міліцыі напісаў на мяне заяву ў праваахоўныя органы, што, маўляў, я незаконна прысвойваў сродкі сяброў таварыства.

На мяне была заведзена крымінальная справа, але летам гэтага года яе спынілі з-за адсутнасці складу злачынства. Апыталі ўсіх жыхароў, ніхто не пацвердзіў, што я нешта краў ці незаконна прысвойваў.

**– І зараз справа набыла нечаканы паварот?**

– Так, адвакат мне паведаміў, што на падставе пастановы пракуратуры Брэсцкай вобласці вытворчасць спыненага папярэдняга расследавання па маёй крымінальнай справе адноўлена. Хаця юрысты адназначна казалі: справа наогул не павінна дайсці да суда, тым больш што па ёй прайшлі ўсе тэрміны даўніны.

**– З чым звязваеце тое, што апынуліся ў такой сітуацыі?**

– Я ўдзельнічаў у выбарчай кампаніі, хаця і не зарэгістраваны кандыдатам. Магчыма, даюць сігнал, каб падчас выбарчай кампаніі сядзеў спакойна. У любым выпадку аднаўленне расследавання звязваю толькі са сваёй актыўнасцю, бо справа і выедзенага яйка не вартая.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СУД!

# 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму

Такое пакаранне быламу намесніку міністра аховы здароўя, экс-гендырэктару кіруючай кампаніі холдынга «Белфармпрам» **Валерыю Шаўчуку** вызначыў учора, 21 кастрычніка, суд Савецкага раёна Мінска.

Шаўчук сваёй віны не прызнаў. Былога чыноўніка, як ужо пісала "Народная Воля", абвінавачвалі ў атрыманні хабару і махлярстве. Тое, што следчыя кваліфікавалі Шаўчуку як хабар, ён называў падарункамі, а адзін эпізод увогуле адмаўляў.

Тым не менш суд, як і дзяржабвінаваўца, палічыў, што віна Шаўчука даказана.

Валерый Шаўчук другі экс-міністр аховы здароўя, чалавек з каманды былога міністра і былога віцэ-прэм'ера **Васілія Жарко**, які атрымаў такое пакаранне. У лютым **Ігар Ласіцкі** быў асуджаны за хабар таксама на 6 гадоў, ён адбывае пакаранне ў калоніі «Віцьба».

# Бізнесмен Галавач атрымаў штраф

У судзе Савецкага раёна справа Валерыя Шаўчука разглядалася разам са справай заснавальніка ПГУП «Ледафарммед» **Алега Галавача**, якога абвінавачвалі ў дачы хабару – у тым, што ў кастрычніку 2016 года, для таго каб у ягоную ліцэнзію на права ажыццяўлення фармацэўтычнай дзейнасці ўнеслі дапаўненні, прывёз Валерыю Шаўчуку на лецішча мэблю на 2748 рублёў: вітрыны, шафу, камоду. Шаўчук менавіта гэты эпізод і адмаўляў у судзе. Галавач жа прызнаў яго цалкам.

Рашэнне суда па справе бізнесмена Галавача – штраф у памеры 500 базавых велічынь, што складае зараз 12.750 рублёў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

